*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.)
№ 46 (206)
16 лістапада 1994 г.
Кошт — 40 рублёў

**ДЗЕЦЯМ ЖЫЦЬ І ПРАЦАВАЦЬ У БЕЛАРУСІ, ДЗЕ З ЦЯГАМ ЧАСУ БУДЗЕ ЎСЮДЫ І СКРОЗЬ ПАНАВАЦЬ ДЗЯРЖАЎНАЯ БЕЛАРУСКАЯ МОВА.**
Стар. 2.

**«ДВОЙКА ЗА ХЛЕБ НАСУШАНЫ», АЛЬБО ЯКАЯ МАЛІТВА ДАХОДЗІЦЬ ДА БОГА.**
Стар. 3.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **7 ЛІСТАПАДА Ў МЕНСК ПРЫБЫЎ НАДЗВЫЧАЙНЫ І ПАЎНАМОЦНЫ ПАСОЛ ЗША Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ ПАН КЕНЭТ ЯЛОВІЦ.**

○ ***ДАНІЯ ДАПАМОЖА БЕЛАРУСІ ЎСТУПІЦЬ У САВЕТ ЕЎРОПЫ*** *— абяцаў дацкі міністр Пэтэрсан. Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка магчыма наведае ў сакавіку наступнага года Данію, дзе пройдзе канферэнцыя ААН па сацыяльных пытаннях.*

○ **У ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ РАЗГЛЯДАЕЦЦА ПЫТАННЕ АБ ВЫБАРАХ.** Тэрмін паўнамоцтваў цяперашняга парламента заканчваецца 4 сакавіка наступнага года. Па выступленнях некаторых дэпутатаў адчуваецца, што многія не супраць «папрацаваць» яшчэ хаця б год.

○ ***У ЮНЕСКА ПАДРЫХТАВАНЫ ДА РАЗГЛЯДУ ДАКЛАД*** *аб стане СМІ на Беларусі, зроблены двума назіральнікамі Праграмы развіцця ААН ЮНЕСКА. Папярэднія высновы, да якіх прыйшлі эксперты, даволі аптымістычныя: за час прыходу да ўлады спадара Лукашэнкі грубых парушэнняў свабоды слова на Беларусі эксперты не ўбачылі.*

○ **У АКАДЭМІІ НАВУК АДБЫЛАСЯ НАВУКОВАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ**, прысвечаная 110-годдзю з дня нараджэння Язэпа Лёсіка. У ёй прынялі ўдзел мовазнаўцы, гісторыкі, літаратары — усе, каму дарага імя акадэміка Язэпа Лёсіка.

○ ***«ШТО ДУМАЮЦЬ ЭМІГРАНТЫ ПРА БЕЛАРУСКАГА ПРЭМ'ЕР-МІНІСТРА?»*** *— на гэтае пытанне, зададзенае журналістам Анатолем Кляшчуком у час яго паездкі ў ЗША, адказалі многія нашы суайчыннікі. Так, Галіна Русак (мастачка, грамадскі дзеяч) сказала: «Мяне ўразіла тое, што беларускі прэм'ер добра гаворыць па-беларуску, чаго не чулі мы ад многіх папярэдніх прадстаўнікоў улады. Але чаму ён не карыстаецца мовай штодзённа? І калі нарэшце першыя асобы дзяржавы перастануць грэбаваць гэтым фактарам?»*

○ **НЯДАЎНА ЗАРЭГІСТРАВАНА ЯШЧЭ АДНА ГРАМАДСКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ** — рэспубліканскае аб'яднанне вязняў фашызму «Лёс», якое ўзначальвае Вольга Няхай. Галоўная задача арганізацыі — маральная і матэрыяльная дапамога людзям, якія зведалі жахі фашысцкіх засценкаў.

○ ***З 1 СТУДЗЕНЯ 1995 ГОДА*** *усе затраты на ўтрыманне жылля і камунальныя паслугі будуць поўнасцю аплочвацца грамадзянамі нашай краіны. Маламаёмым будуць выдавацца дзяржавай жыллёвыя субсідыі для аплаты камунальных паслуг. Урад мяркуе ад уvядзення жыллёвых субсідый атрымаць эканомію ў сотні мільярдаў рублёў. А што гэта дасць простым людзям?*

*РЭХА*

## НЕ АДНОЙ КАЎБАСОЮ ЖЫВЫ НАРОД

Зараз высокія кіраўнікі, расхвальваючы сваю праграму, засяроджваюць увагу адно на тым, што яны калісьці накормяць насельніцтва «колбасой». Шаноўныя, праграма на «колбасе» — гэта не вельмі дальнабачна. Такое ўжо было ў ранейшых «бацькоў». Бо ў Бібліі сказана: «Не хлебам адзіным жыве чалавек». Тым больш — цэлы народ!

І пахваляцца, быццам 80 працэнтаў беларусаў за хаўрус з Расіяй, не варта было б. Не кажыце хоць тады, што сам вы беларус.

Варыва са зліццём нацый і народаў многія дзесяцігоддзі вашы папярэднікі ўжо варылі, а што атрымалі? Чарнобылі ды Карабахі?

Думаю, з суседзямі трэба дружыць, а трымацца за сваё — за звычаі, за мову. А то гляджу тэлевізар — і калі ганаровыя культурнікі Беларусі накшталт У.Мулявіна і В.Дайнэкі пачынаюць «ззяць» на экране па-руску, дык я хуценька пераключаю праграму на «Астанкіна». Прабачце, нікога не абражаю, а вось напрыканцы хачу сказаць: люблю родны свой край, таму гэта і напісаў.

**Пятро ПІЛІПОВІЧ.**
в.Чалярысы,
Брагіншчына.

*ЧЫТАЛІ?*

## Мова— пароль агульнасці народа

*Пасля некалькіх год жыцця ў Злучаных Штатах Амерыкі і працы ў ААН вярнуўся дадому вядомы беларускі паэт Генадзь Бураўкін. Цікавую гутарку з ім пра замежныя ўражанні апублікавала ў «Голасе Радзімы» (№ 42) журналістка Дзіяна Чаркасава.*

Не абышлася без пытанняў пра мову і, вядома ж, яе носьбіта — народ. Журналістка згадала радкі з верша паэта: «Мой Бог — народ. І больш няма Багоў. Ні на зямлі бязбожнай, ні на небе...» «Менавіта так», — пацвердзіў паэт, але ў той жа час заўважыў, што не ўсё яму ў сваім народзе падабаецца. «Мне не падабаецца, — удакладніў Генадзь Бураўкін, — калі цярплівасць, талерантнасць пераходзяць межы разумнага, калі пануе прыніжаная годнасць, надзвычайная паслухмянасць «начальству», прывычка азірацца на чужых, лічачы, што ў суседзяў заўсёды ўсё лепшае. Мы ўвесь час недаацэньваем сябе і дзеля нейкіх уяўна высокіх мэтаў гатовы паступіцца гісторыяй, адмовіцца ад роднай мовы...» Гаворачы пра беларускіх эмігрантаў, Генадзь Бураўкін згадаў, што многім з іх якраз дапамагла выжыць менавіта родная мова. «Родная мова для іх, — адзначыў ён, — своеасаблівы пароль агульнасці. Яна больш, чым сродак зносін, яна псіхалагічная з'ява, якую беларусы, жывучы тут, не адчуваюць. У абсалютна чужым моўным асяроддзі роднасць паміж людзьмі найперш і яскравей за ўсё адчуваецца праз мову. Мова там як своеасаблівая клятва нечаму дарагому. Яна аб'ядноўвае людзей адной веры, адной зямлі, адной сям'і. Я сустракаў маладых людзей з апошняй хвалі эміграцыі, якія тут не гаварылі па-беларуску, а ў Амерыцы пачалі гаварыць на роднай мове, хай сабе спачатку і няўмела, бо захаванне сваёй адметнасці — натуральная з'ява. Яны ўбачылі, як да сваёй мовы ставяцца кітайцы, французы, іспанцы — ім таксама не захацелася быць манкуртамі.

А тут, «у нас», як вы кажаце... Праблема з беларускай мовай вельмі цяжкая, часам палітычна спекулятыўная. Мяне больш за ўсё трывожыць і нават злуе тое, што праблему гэтую настырна ўзнімаюць людзі, якія як след не валодаюць ні рускай, ні беларускай мовай. А калі чалавек толкам не гаворыць ні па-руску, ні па-беларуску і пачынае судзіць, што беларуская мова такая-сякая, «мужыцкая», а руская — «это да» і сваю недасведчанасць выдаюць за інтэрнацыяналізм, мяне гэта проста шакіруе. Даруйце, але недасведчаны, дурны чалавек не можа быць інтэрнацыяналістам.

Вы толькі паглядзіце, у якіх эканамічных пакутах б'ецца наша рэспубліка, як цяжка таму ж Лукашэнку, які прыйшоў да разбітага карыта. А што робяць розныя «саборы», «рухі», «саюзы»? Зацята таўкуцца практычна вакол адной праблемы — двухмоўя. Што — гэта цяпер самая вострая праблема для краіны, найпершая праблема для народа? Будзем усё называць сваімі словамі — не думаюць яны пра гэты народ, дбаюць пра асабістыя амбіцыі — імперскія, шавіністычныя, хочуць вярнуцца ў Расійскую імперыю. А дэмакратычнай Расіі гэтыя дзеячы, дарэчы, не патрэбны. Калі б сапраўдныя рускія інтэлігенты даведаліся, хто тут у нас прадстаўляе іх вялікі рускі народ, яны б жахнуліся.

Самае ж неверагоднае, што ў кампанію за невыкананне, ігнараванне Закона аб мовах уключыліся некаторыя дэпутаты Вярхоўнага Савета рэспублікі. Дык мне хочацца сказаць ім: будзьце сумленнымі, прызнайце, што вы не ўпісваецеся ў палітычную сітуацыю, знiміце з сябе паўнамоцтвы, станавіцеся радавымі грамадзянамі і ў той якасці вядзіце сваю прапаганду. А то вы ж быццам бы прадстаўляеце народ і адначасова зневажаеце яго мову, сімвалы...

Такое мяне вельмі здзівіла, бо падобнага не можа быць ні ў якой дзяржаве».

Напрыканцы Генадзю Бураўкіну — ужо не толькі як паэту, але і высокаму чыноўніку ў кабінеце міністраў журналістка задала пытанне пра перспектывы выжывання беларускамоўнай прэсы. Бо ходзяць чуткі, што яе перастане фінансаваць дзяржава.

— Спадзяюся, — сказаў Генадзь Бураўкін, — што беларускамоўная прэса не знікне, бо калі такое здарыцца, то знікне Беларуская дзяржава — суверэнная, самастойная. А што лепш быць незалежнымі, чым слугой у некага, тым больш у дзяржавы, якая сама мае праблем па вушы, з цягам часу разумеюць нават тыя, хто не вельмі ўсведамляе, што такое суверэнітэт.

## І вось прайшло 100 дзён прэзідэнцтва

Прайшлі першыя сто дзён з моманту заступлення на пасаду першага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнкі і пачатку выканання яго праграмы пад гучнай назвай «Адвесці народ ад бездані».

У сувязі з гэтым Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Грамада распаўсюдзіла заяву, у якой гаворыцца, што гэты час поўнасцю пацвердзіў, што грамада, на жаль, не памылілася ў сваіх песімістычных ацэнках і прагнозах.

Абяцанні кандыдата на пасаду Прэзідэнта ўтаймаваць інфляцыю, спыніць збядненне насельніцтва і адмовіцца ад выпуску ў абарачэнне пустых грошай абярнуліся на справе шматмільярднай эмісіяй не забяспечаных таварнай масай рублёў, як быццам бы для падтрымкі сельскай гаспадаркі, але, як і раней, грошы да сельскага працаўніка не дайшлі, а трапілі на валютную біржу. У выніку курс беларускага рубля з 2800 рублёў за 1 долар ЗША на 22 ліпеня ўпаў да 7030 рублёў за 1 долар на 24 кастрычніка.

Мафія нажыла вялікія капіталы, а сярэдні заробак нашых грамадзян за тры апошнія месяцы ўпаў з 30 да 20 долараў.

Адначасова рэзка ўзраслі цэны на прадукты харчавання, на праезд, паліва, камунальныя паслугі і гэтак далей. Ніякіх прыкмет спынення росту цэн не назіраецца.

Адной з галоўных мэт у праграме кандыдата была барацьба з карупцыяй, разгром мафіёзных структур, якія, паводле яго слоў, кіруюць у дзяржаве.

Але Прэзідэнт не толькі нікога не прыцягнуў да адказнасці з былога карумпаванага кіраўніцтва Беларусі, а яшчэ і прызначыў у свой урад такіх вядомых прадстаўнікоў «каманды Кебіча», як Лінг, Мясніковіч, Заламай, Куранкоў і іншыя.

Стаўшы Прэзідэнтам пад лозунгам стварэння народнай улады, А.Лукашэнка пазбавіў народ права выбіраць старшынь выканкамаў мясцовых Саветаў прамымі выбарамі, пайшоўшы на іх прызначэнне чыста бюракратычным шляхам. Такая незалежнасць чыноўніцтва ад народнага волевыяўлення непазбежна прывядзе да яшчэ большай безадказнасці і разбэшчанасці наменклатуры і да яшчэ большага бяспраўя простага чалавека.

Паабяцаўшы дабівацца аднаўлення парушаных сувязей, імкнуцца да інтэграцыі краін СНД, кіравацца ў знешнепалітычнай дзейнасці карэннымі інтарэсамі народа Беларусі, Прэзідэнт так і не здолеў падысці да вырашэння пытання аб забеспячэнні Рэспублікі энергарэсурсамі ў асенне-зімовы перыяд. Запазычанасць перад Расійскай Федэрацыяй за энерганосьбіты перавысіла 500 мільёнаў долараў.

У той жа час збор транзітных падаткаў, плацяжоў за знаходжанне на нашай тэрыторыі ваенных баз Расійскай Федэрацыі мог бы даць дзяржаве больш як 2 млрд. долараў за год. Мабыць, Прэзідэнту прасцей пакінуць сваіх грамадзян у халодных кватэрах, чым запатрабаваць ад «старэйшага брата» таго, што належыць нам па праву. Гэта адна з прычын таго, што Беларусь сёння найбяднейшая дзяржава ў Еўропе. Адзінае, у чым Прэзідэнт меў «поспех», — гэта ў спрыянні актывізацыі антыбеларускіх сіл. Выступленні А.Лукашэнкі паслужылі сігналам для наступу вялікадзяржаўных шавіністаў і праціўнікаў незалежнасці Беларусі на беларускую школу і культуру, на дзяржаўны статус беларускай мовы.

Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Грамада, гаворыцца ў заяве, якая распрацавала праграму рэформ, згодна з якой сярэдні заробак на працягу года дасягнуў бы 100—150 долараў ЗША, а жыццёвы ўзровень зраўняўся б з дзяржавамі Балтыі і Усходняй Еўропы, ніколі не змірыцца з такім становішчам у нашай дзяржаве.

Грамадоўцы, гаворыцца ў заяве, прыкладуць усе намаганні, каб разам з іншымі дэмакратычнымі сіламі перамагчы на выбарах у Вярхоўны Савет і такім чынам забяспечыць рэалізацыю іх праграмы па паляпшэнні дабрабыту людзей шляхам умацавання дзяржаўнасці, дэмакратыі і рыначнай эканомікі.

**ВАМ, ШКОЛЬНІКІ!**
Стар. 7.

# ДЗЕЦЯМ ЖЫЦЬ І ПРАЦАВАЦЬ У БЕЛАРУСІ, ДЗЕ З ЦЯГАМ ЧАСУ БУДЗЕ ЎСЮДЫ І СКРОЗЬ ПАНАВАЦЬ ДЗЯРЖАЎНАЯ БЕЛАРУСКАЯ МОВА

***ТЕЛЕГРАММА***

***Уведомление телеграфом г.Минск Комиссия Верховного Совета по образованию РБ***

**Просим ввести обучение детей 1-х классов в СШ № 17 г.Бреста по желанию родителей на русском языке. В районе проживания — две школы белорусские. Вопрос этот не может решиться с 31 августа. Мы получили отказы от местных органов власти. Наши дети не имеют словарного запаса белорусского языка. Им трудно усваивать объяснения учителя. В семье, в школе, а также со сверстниками дети общаются на русском языке. Мы уважаем белорусский язык, но он должен изучаться постепенно, добровольно, но не в принудительном порядке. Только тогда будет положительный результат. По поручению родителей 1-х классов родительский комитет СШ № 17 г.Бреста.**

**13.10.1994**

***УРАДАВАЯ***

***ТЭЛЕГРАМА***

***Брэст, СШ № 17, бацькам вучняў І-х класаў***

**Вельмі шаноўныя грамадзяне!**

**Просім уважліва, спакойна, не на эмацыянальным узроўні пазнаёміцца з нашым адказам на пытанні, пастаўленыя ў вашай тэлеграме ў Вярхоўны Савет наконт пераводу вашых дзяцей на рускую мову навучання.**

**Ужо амаль тры гады мы з вамі жывём у незалежнай дзяржаве — Рэспубліцы Беларусь, краіне, якая мае тысячагадовыя традыцыі развіцця дзяржаўнасці, асветы, кнігадрукавання, мае сваю дасканала распрацаваную літаратурную мову і разгалінаваную нацыянальную сістэму адукацыі. Паводле Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь дзяржаўнай мовай у нас з'яўляецца беларуская мова. У адпаведнасці з Канстытуцыяй, у Законе аб адукацыі сказана:«Беларуская мова з'яўляецца асноўнай мовай выхавання і навучання ў дзіцячых дашкольных і навучальных установах. У месцах кампактнага пражывання грамадзян пэўнай нацыянальнасці ў навучальных ці выхаваўчых установах арганізуецца вывучэнне мовы гэтай нацыянальнасці, могуць ствараецца школы, групы ці класы, у якіх на адпаведнай мове ажыццяўляецца выхаванне ці навучанне». У гэтым жа Законе запісана, што ва ўсіх школах Беларусі руская мова вывучаецца абавязкова. Гадзін на яе вывучэнне адводзіцца столькі, каб выпускнікі школ ведалі яе дасканала. Адкуль жа ў вас трывога за адрыў дзяцей ад рускай мовы, літаратуры, культуры? Ніякіх падстаў для трывогі няма. Магчыма, што прыняць памылковае рашэнне наконт пераводу выкладання з беларускай мовы на рускую вас падштурхнулі няўзважаныя выказванні некаторых высокіх службовых асоб краіны. Вельмі шкада, калі так. Трэба помніць і думаць пра свой народ і яго будучыню, пра лёс яго культуры.**

**Вярхоўны Савет Беларусі, Камісія па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны не могуць пагадзіцца з фактамі парушэння якога б ні было закона. Таму звяртаемся да вас з прапановай пераглядзець эмацыянальнае патрабаванне. Не перабольшвайце цяжкасці, якія, нібыта, напаткалі вашых дзяцей. Дзеці вельмі лёгка авалодаюць беларускай мовай. А ваша патрабаванне будзе на шкоду ім у будучыні, бо ім жыць і працаваць у Беларусі, дзе з цягам часу будзе ўсюды і скрозь панаваць дзяржаўная беларуская мова. Дайце вашым дзецям магчымасць стаць годнымі грамадзянамі Беларусі, патрыётамі Бацькаўшчыны.**

**З павагай**

***Старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі і культуры Ніл ГІЛЕВІЧ.***

***УРАДАВАЯ***

***ТЭЛЕГРАМА***

***Брэст, гарвыканкам, загадчыку аддзела адукацыі Жаркову Станіславу Іосіфавічу***

**Паважаны Станіслаў Іосіфавіч!**

**У Камісію Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны прыйшла тэлеграма ад групы бацькоў вучняў СШ № 17 г.Брэста, у якой выказана патрабаванне перавесці 1-я класы ў гэтай школе на рускую мову навучання.**

**Як вядома, паводле Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь дзяржаўнай мовай рэспублікі з'яўляецца беларуская мова. У адпаведнасці з Канстытуцыяй у Законе аб адукацыі сказана: «Беларуская мова з'яўляецца асноўнай мовай выхавання і навучання ў дзіцячых дашкольных і навучальных установах». У гэтым жа Законе падкрэслена, што руская мова ва ўсіх школах Беларусі вывучаецца абавязкова — з тым, каб выпускнікі школ ведалі яе дасканала. Адкуль жа ў бацькоў трывога за адрыў дзяцей ад рускай мовы, літаратуры, культуры? Ніякіх падстаў для трывогі няма.**

**Камісія рэкамендуе работнікам аддзела адукацыі, адміністрацыі СШ № 17 з удзелам зацікаўленых і дасведчаных спецыялістаў, выкладчыкаў Брэсцкага педінстытута, журналістаў, літаратараў растлумачыць бацькам вучняў СШ № 17, што іх грамадзянскі абавязак не толькі выконваць закон, але і выхоўваць патрыётаў Бацькаўшчыны, што яны ў сваіх патрабаваннях памыляюцца на шкоду сваім жа дзецям, якім жыць і працаваць у Беларусі, дзе з цягам часу ўсюды і скрозь будзе панаваць дзяржаўная беларуская мова.**

**З павагай**

***Старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі і культуры Ніл ГІЛЕВІЧ.***

*ЖЫЦЦЁ ТАВАРЫСТВА*

# У Дзятлаўскім раёне яшчэ адна суполка ТБМ

У вёсцы Раготка адбыўся семінар бібліятэчных работнікаў, на якім прысутнічала трыццаць чалавек. Семінар быў прысвечаны Дню беларускага пісьменства і друку. У госці да бібліятэкараў прыйшлі мясцовыя паэты з літаб'яднання «Пралескі», якое заснавана пры райгазеце «Перамога».

Усе прысутныя выказалі жаданне стаць сябрамі ТБМ імя Францішка Скарыны. Кожнаму былі ўручаны пасведчанні і значкі Таварыства. Паводле Статута ТБМ абралі кіраўніцтва новай суполкі. Гэта, падкрэслім, ужо другая суполка, нядаўна створаная ў раёне.

**Мікола ГРЫШАН,**
**старшыня раённай Рады ТБМ імя Францішка Скарыны.**
Дзятлаўскі раён.

* * *

На пасяджэнні Жлобінскай аб'яднанай раённа-гарадской рады ТБМ імя Ф.Скарыны прынята рашэнне аб калектыўным уваходзе сваёй рэгіянальнай арганізацыі ў склад Беларускага рэспубліканскага Фонду падтрымкі дэмакратычных рэформаў імя Льва Сапегі. Плануецца, што ТБМ і Фонд аб'яднаюць свае намаганні на шляху культурна-асветніцкай дзейнасці дзеля нацыянальнага адраджэння.

**Мікалай ШУКАНАЎ,**
**старшыня Жлобінскай рады ТБМ імя Ф.Скарыны.**

*З АФІЦЫЙНЫХ КРЫНІЦ*

# У НАЦЫЯНАЛЬНЫМ ІНСТЫТУЦЕ ГУМАНІТАРНЫХ НАВУК

**25—26 кастрычніка** адбылася Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя «Адукацыя і нацыянальна-культурнае адраджэнне». Разглядалася шырокае кола праблем па развіцці адукацыі ва ўмовах нацыянальна-культурнага адраджэння.

Для выкладчыкаў ССНУ, ПТВ і СШ 10—14 кастрычніка праводзіўся рэспубліканскі навукова-практычны семінар «Сусветная мастацкая культура: змест курса, праграма, методыкі выкладання».

З 18 па 28 кастрычніка праводзілася чарговая сесія па перападрыхтоўцы выкладчыкаў ВНУ па культуралогіі.

З удзелам прадстаўнікоў дзяржаўных органаў, палітычных партый і рухаў для слухачоў інстытута былі праведзены наступныя «Круглыя сталы»:

- **10 кастрычніка** — «Дзяржаўнае будаўніцтва: мадэлі, перспектывы».
- **15 кастрычніка** — «Палітычныя партыі і рухі ў Рэспубліцы Беларусь».
- **22 кастрычніка** — «Палітычныя працэсы ў Рэспубліцы Беларусь: погляд журналістаў».

## Міжнародныя канферэнцыі

❑ **18—19 кастрычніка** ў Беларускім дзяржаўным універсітэце адбылася Міжнародная навуковая канферэнцыя «М.В.Доўнар-Запольскі: Жыццё. Дзейнасць».

❑ **21—22 кастрычніка** ў Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі педагогі і навукоўцы рэспублікі і замежжа абмяркоўвалі праблемы інжынерна-педагагічнай адукацыі: гісторыя, праблемы, перспектывы.

❑ **21—25 кастрычніка** Мінскі дзяржаўны лінгвістычны універсітэт правёў Міжнародную навукова-практычную канферэнцыю «Усходняя Еўропа: палітычны і сацыяльна-культурны выбар».

❑ **26—28 кастрычніка** ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце прайшла Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя па праблеме «Актуальныя праблемы выкладання біялагічных дысцыплін і арганізацыя даследаванняў».

## Рэспубліканскія канферэнцыі

❑ **4—5 кастрычніка** ў Магілёўскім машынабудаўнічым інстытуце адбылася Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя «Праблемы якасці і надзейнасці машын».

❑ **11—13 кастрычніка** ў Беларускім дзяржаўным універсітэце навукоўцы рэспублікі сабраліся на навукова-практычную канферэнцыю «Эксперыментальныя асновы сінергетыкі».

❑ **11—13 кастрычніка** Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт правёў Рэспубліканскую навукова-практычную канферэнцыю «Новыя формы і метады прафарыентацыі і даінстытуцкай падрыхтоўкі моладзі».

❑ **18—19 кастрычніка** ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце праводзілася Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя «Развіццё навуковых асноў удасканалення педпрактыкі студэнтаў».

❑ **25—26 кастрычніка** ў Віцебскім дзяржаўным педагагічным універсітэце адбылася Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя «Выяўленчае мастацтва ў сістэме адукацыі».

❑ **25—26 кастрычніка** Брэсцкі дзяржаўны педагагічны інстытут правёў Рэспубліканскую навукова-практычную канферэнцыю «Дыялектыка свядомасці сучаснай моладзі».

❑ **26 кастрычніка** на навукова-практычнай канферэнцыі ў Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце студэнты і аспіранты рэспублікі мелі магчымасць выказаць свае меркаванні па праблеме «Беларуская мова сярод еўрапейскіх».

❑ **27—28 кастрычніка** ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце адбылася Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя «Гістарычнае краязнаўства».

❑ **24—27 кастрычніка** на базе школ г.Менска упраўленне агульнай сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь правяло Рэспубліканскі семінар «Формы, метады і сродкі навучання малодшых школьнікаў у сістэме класаў развіццёвага навучання».

❑ **11—13 кастрычніка** ў БДПУ прайшла Рэспубліканская навукова-метадычная канферэнцыя «Новыя формы і метады прафарыентацыі і даінстытуцкай падрыхтоўкі моладзі на сучасным этапе развіцця грамадства».

❑ **27 кастрычніка** ў Ваўкавыску прайшоў семінар-нарада па абмену вопытам выканання Закона аб мовах у педагагічных навучальных установах.

РЭЛІГІЯ

# ВЯРТАННЕ МАРЫЯНАЎ НА БЕЛАРУСЬ

Айцец Леў Гарошка... Многія, мабыць, чулі пра гэтага незвычайнага чалавека, бо пра яго лёс апошнім часам было нямала публікацый.

Айцец Леў пакінуў Беларусь у 1944 годзе. Спачатку спыніўся ў Рыме. Праз два гады выдаў там першы і дагэтуль адзіны беларускі грэка-каталіцкі малітоўнік — «Божым шляхам». З кастрычніка 1947 года ў Парыжы ён пачаў выдаваць часопіс пад той жа назвай. Калі сёння гартаеш тыя пажоўклыя ад часу старонкі, то здзіўляешся нястомнасці і працавітасці святара. Ён хацеў паспець усюды: сам пісаў большасць артыкулаў, задавальняў душпастарскія патрэбы беларусаў ва ўсёй Францыі, удзельнічаў у Акадэмічным каталіцкім аб'яднанні «Рунь», дамогся шматлікіх стыпендый для навучання нашых суродзічаў, сабраў унікальную прыватную бібліятэку, якая пазней стала часткай славутай Бібліятэкі імя Ф.Скарыны ў Лондане.

Часопіс «Божым шляхам» а.Леў рэдагаваў да 1957 года. Праз два гады а.Гарошка стаў манахам Зграмаджэння айцоў-марыянаў. Чалавек энцыклапедычных ведаў, ён за гэты час апублікаваў дзесяткі, калі не сотні казанняў, артыкулаў з царкоўнай гісторыі, мастацтва-знаўчых і багасloўскіх — прац вельмі грунтоўных, якія і сёння даюць багаты матэрыял для глыбокіх разважанняў.

Летась мне давялося пачуць ад а.Аляксандра Надсана з Англіі, што цудоўна было б аднавіць выданне «Божым шляхам», але цяпер — на Бацькаўшчыне. Мабыць, трэба імкнуцца да гэтага, але ці знойдзецца яшчэ адзін айцец Леў?

У Рыме, Парыжы і Беластоку выйшла восем кніг, напісаных а.Гарошкам. Самая значная з іх, напэўна, «Навука і рэлігія» (Рым, 1977). Над тэмай узаемаадносін веры і ведаў святар працаваў яшчэ з 40-х гадоў. Увогуле, дадзеная тэма была вельмі актуальнай на Захадзе ў сярэдзіне нашага стагоддзя. Нічога дзіўнага: у той час новыя адкрыцці ў фізіцы, хіміі, палеанталогіі, астраноміі, біялогіі і нават матэматыцы сталі абвяргаць даўно прынятыя і, здавалася, непарушныя ўжо нормы ў гэтых галінах навукі. Таму навукоўцы часцей і часцей сталі сцвярджаць, што навука не ў стане адказаць на многія прынцыповыя пытанні аб жыцці і свеце. Натуральна, што даследчыкі пачалі шукаць адказы на такія пытанні ў рэлігіі. Многія з іх адкрылі і ўсвядомілі дзіўную рэч: рэлігія не супярэчыць навуковым ведам. Менавіта аб гэтым і напісаў а.Леў Гарошка ў згаданай кнізе. Увогуле, выхад дадзенай працы цудоўна засведчыў, што перадавая беларуская багаслоўская думка развіваецца ў кантэксце заходняга каталіцкага багаслоўя. Гэта важна, бо першыя спробы беларусаў у 20—30-я гады адрадзіць сваю тэалагічную традыцыю (тут варта нагадаць аб працах айцоў Абрантовіча, Станкевіча, Рэшэца) былі перарваны тэрорам польскіх улад, затым з'явіліся «ваяўнічыя атэісты».

Мінула амаль 20 гадоў, як выйшла «Навука і рэлігія» а.Льва. Яна даўно стала бібліяграфічнай рэдкасцю. Але сёлета айцы-марыяне з Польшчы і Славаччыны перавыдалі кнігу і ўвесь двухтысячны наклад распаўсюдзяць на Беларусі. У Менску кнігу можна будзе набыць, у прыватнасці, у кіёску ТБМ на праспекце Ф.Скарыны, а жыхары іншых мясцін — замовіць яе ў рэдакцыі часопіса «Унія» (220050, Менск, п/с 224).

Дарэчы, у міжваенны перыяд марыяне зрабілі шмат для пашырэння беларускага каталіцкага друку. Менавіта іх славуты манастыр у Друі ахвяраваў сродкі на выданне «Хрысціянскай думкі» і існаванне Беларускай друкарні імя Ф.Скарыны ў Вільні. Святары-марыяне распаўсюджвалі газету «Беларуская крыніца». Зразумела, такая дзейнасць не спадабалася польскім уладам. Таму ў канцы 30-х гадоў іх выслалі з Друі. Сярод высланых — айцы Фабіян Абрантовіч, Андрэй Цікота, Язэп Германовіч, іншыя пакутнікі за веру.

Сёння на Беларусі працуе ўжо каля дзесятка марыянаў. Многім вядомыя імёны кс.Уладзіслава Чарняўскага з Вішнева, кс.Антона Лося, а.Сяргея Гаека — Апостальскага Візітатара для грэка-каталікоў Беларусі. Усе яны — марыяне. Радасна, што гэтае Зграмаджэнне адраджае свае лепшыя традыцыі ў нашай краіне.

**Ігар ІВАНОЎ.**
**Часопіс «Унія».**

РУПЛІЎЦЫ

# НЯЎРЫМСЛІВЫ ЗМАГАР ЗА ЎСЁ РОДНАЕ



*Маё першае знаёмства з гэтым цікавым чалавекам прыпадае на той недалёкі час, калі малады падпалкоўнік Валерый Іванавіч Кастко — сябра БЗВ і Рады ТБМ імя Ф.Скарыны — яшчэ служыў у войску.*

*Прыемна было пагутарыць на роднай мове з нацыянальна свядомым вайскоўцам, які шчыра любіць сваю маці-Беларусь, беражэ ў душы прыгажосць, сціпласць і гераізм свайго народа, яго культуру. Яшчэ больш стаў паважаць Валерыя Іванавіча, калі даведаўся, што ён у Маладзечанскім ваенным гарадку стварыў курсы па вывучэнні роднай мовы і музей беларускай ваеннай гісторыі. Да тутэйшых вайскоўцаў тады пачалі часта прыязджаць беларускія артысты, спевакі, пісьменнікі, а мастакі рэгулярна наладжвалі выставы для воінаў гарнізона.*

*Валерый Іванавіч няўрымслівы змагар за ўсё роднае, ніколі не замыкаўся ў сваім вайсковым асяроддзі. У вольны ад службы час падпалкоўнік прымаў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці горада, часта сустракаўся з выбаршчыкамі, якія абралі яго дэпутатам Менскага абласнога савета. Без В.Кастко ў Маладзечне не абыходзілася ніводнае мерапрыемства, наладжанае дэмакратычнымі суполкамі і згуртаваннямі.*

*Пакінуўшы не па сваёй ахвоце войска (заўчасна звольнены фактычна за свой беларускі патрыятызм), Валерый Іванавіч цяпер працуе кіраўніком спраў нашага гарвыканкама. Першае, што тут ён зрабіў, — тактоўна даведаў работнікам гарсавета неабходнасць беларускамоўнага справаводства. А неўзабаве дамогся штатнай адзінкі інспектара па кантролю за выкананнем Закона аб мовах Рэспублікі Беларусь.*

*У выканкаме Валерый Іванавіч працуе нядаўна, наперадзе ў яго вялікі абсяг працы. Зычу яму плёну і поспехаў!*

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**
г.Маладзечна.

# *Мове роднай — пакланіся!..*

У нашай школе нядаўна праведзена свята матчынай мовы. Яго падрыхтавала і правяла з вучнямі трэціх-чацвёртых класаў кіраўнік фальклорнага гуртка, выхавацель групы падоўжанага дня Валянціна Богуш. Ва ўступным слове яна падкрэсліла ролю беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, заклікала ўдзельнікаў і гасцей свята да дасканалага авалодвання моўнымі скарбамі.

Свята праходзіла ў форме інсцэніраванага прадстаўлення. Класнае памяшканне было стылізавана пад колішнюю беларускую сялянскую хату з абавязковым яе атрыбутам — плеценай калыскай. Вядучая спытала ў дзяцей: якія хто ведае калыханкі? Лепшымі былі адказы Наташы Кажаноўскай і Вольгі Супрунчык, пад якія і была закалыхана лялька. Далей пад мелодыю «Лявоніхі», у нацыянальным касцюме, танцуючы і прыпяваючы, у «хату» завітаў Несцерка (Сяргей Асколкаў). Ён запрасіў станцаваць з ім, што і зрабіла Лявоніха (Люда Андрэйкавец). Затым выйшла на «хату» Ганначка (Вольга Супрунчык), якая прынесла на свята цуд — кнігу на разгорнутым вышываным ручніку. Ганначка паведаміла, якім незаменным памочнікам-дарадцам чалавека з'яўляецца кніга «Роднае слова», заклікала шанаваць і берагчы матчыну мову.

Зацікавацю сустрэлі прысутныя апранутых па-колішняму Дзеда і Бабу (Артур Абдулаеў і Іна Серадзіна), якія доўга шукалі адзін аднаго, а калі сустрэліся, то Дзед праспяваў жартоўныя прыпеўкі. Для дзяцей Дзед падрыхтаваў вяночкі і надзяліў імі тых, хто прыгадаў лепшыя смяшынкі.

Напрыканцы свята ўсе яго ўдзельнікамі была выканана беларуская народная песня «Люблю наш край».

У заключным слове Валянціна Богуш заклікала ўсіх шанаваць нашу дзяржаўную мову, не цурацца яе, беражліва перадаць нашчадкам.

Цікавае, змястоўнае свята дапамагла правесці настаўніца музыкі і спевалу Валянціна Слуцкая.

**Леанід РАМАНЕНКА,**
**настаўнік Рамельскай СШ Столінскага раёна.**

РЭХА

# «Двойка за хлеб насушаны», альбо Якая малітва даходзіць да Бога

**У № 34(194) 1994 г. «НС» прачытаў артыкул вядомага паэта Масея Сяднёва. Артыкул носіць назоў: «Наша спадчына — старaславянізмы». Што нашая спадчына — старaславянізмы, пярэчанняў няма, але з разважаннямі, выказанымі аўтарам, мушу паспрачацца. Ужо пытанне, пастаўленае аўтарам артыкула: «Але ніводзін з гэтых перакладаў, наколькі я знаю, не прыняты праваслаўнай царквой. Чаму?» Вось гэтае «чаму» ён не надта яскрава высвятліў... Па сутнасці, трудна зразумець, ці ён супраць дрэнных перакладаў, ці за ўтрыманне старaславянскай мовы ў праваслаўнай беларускай царкве. Зрэшты, сп.Сяднёў у сваім артыкуле закранае толькі праваслаўную царкву, хаця праблема перакладаў датычыцца таксама каталіцкае і вуніяцкае. Калі сп.Сяднёў уважае, што перакладчыкі, ужываючы (часамі) «народную мову», «гэтым самым выпустошваюць, а то і вульгарызуюць тэкст, які яны перакладаюць», дык тут яму можна паставіць наступнае пытанне: «Ці малітва для верніка (у адным выпадку праваслаўнага) больш важная ў захаванні ейнага «рытму, ейнага строю арыгінальнай царкоўнаславянскай мовы, яе паэтычнасць і плаўнасць», ці зразумеласць таго, з чым звяртаецца да Бога вернік, ім жа самім? На маю думку (хаця гэта не мой вынахад, а выказана шматлікімі высокадастойнымі і кампетэнтнымі асобамі), святая малітва — гэта гутарка чалавека з Богам. А як жа гэтая гутарка можа адбывацца на незразумелай мове для верніка?**

**Я выказваю гэта не напуста, а з перажытага прыкладу. Я сам праваслаўны і глыбока веруючы. У маленстве мама мая вучыла мяне «пацеры» (так у нас называлі малітвы, а слова «пацеры» паходзіць з лацінскага Pater — айцец). І вось, падчас нашае з мамай «лекцыі» ў тым самым успомненым сп.Сяднёвым «Отче наш», я наткнуўся на «...хлеб наш насущный...» Слова «насущный», мне думалася, паходзіць ад нашага слова *сушыць* — зрэшты, мама вымаўляла «насушны» (а то і «насушаны»), а не «насущный», як у арыгінале. Дык я запытаўся ў мамы: чаму трэба хлеб насушваць. Бедная мая мама не магла даць адказу, бо сама не ведала значэння гэтага слова. Сказала толькі: «Дурань, не задавай такіх пытанняў, а вывучай на памяць і так будзеш бацюшку гаварыць, бо інакш атрымаеш «двойку».**

**Далей возьмем таксама ўспомненае ў артыкуле «Избави нас от лукавого». Вось я таксама прычапіўся малы да слова «от лукавого». Атрымаў той самы адказ, што і на «насущный»: вялікая колькасць нашых сялян гэтак жа «моліцца», не разумеючы сэнсу малітваў (ці, як яны іх называюць, пацераў). Нават горш, яны ў большыні якраз парушаюць так дарагі сп.Сяднёву «строй арыгінальнай царкоўнаславянскай мовы, яе паэтычнасць і плаўнасць», бо вымаўляюць словы з моцным беларускім акцэнтам. Трэба ім гэта прабачыць. Зрэшты, мы ўспомнім ніжэй, што яны не адны такія. Трэба таксама зазначыць, што дзеля зручнасці чытання ў малітвенніках старaславянскі альфабэт усё ж заменены новым, дастасаваным да расейскай мовы.**

**Уважаючы, што старaславянская мова для праваслаўнае царквы — гэта як латынь для каталіцкае, сп.Сяднёў прыпамінае словы Шапенгаўэра, не падаючы, на жаль, крыніцы адносна лацінскае мовы, што «яна найбольш дасканалая, найбольш прыгожая і найбольш шляхотная з новых моваў». Але тут ён прапусціў зазначыць два вельмі важныя фактары: што Шапенгаўэр жыў у канцы XVIII — пачатку XIX стагоддзяў, у эпоху, калі лацінская мова была яшчэ даволі пашыраная, і што Ватыкан на другім Сусветным Саборы 1962—65 гг. пастанавіў замяніць у Святых літургіях лацінскую мову на нацыянальныя.**

**Я хачу паставіць тут пытанне: чаму? Вось жа таму толькі, што людзі (у адным выпадку каталікі) маліліся, не разумеючы лацінскае мовы. Гэта значыць, яны не маглі весці паўнацэнную гутарку з Богам на незразумелай для іх мове, у сувязі з чым адбывалася прафанацыя.**

**Я вышэй успомніў, што вымаўленне старaславянскае царкоўнае мовы вельмі часта вульгарызуецца, даходзіць да так званай «трасянкі». Сёння ўвогуле немагчыма ўстанавіць — як дакладна яе трэба вымаўляць. Ва ўсякім выпадку, яна па-рознаму чуецца ў цэрквах расейскіх, беларускіх ці ўкраінскіх. Лацінскую я асабіста меў шматлікія нагоды чуць у розных краінах, у той час, калі яна была афіцыяльнай у каталіцкіх святынях. Розніца ў вымаўленні была страшэнная! Слухаючы часамі англамоўных святароў, трэба было закрываць вушы... Зрэшты, сп.Сяднёў, жывучы ў ЗША, напэўна меў нагоду пачуць гэта і сам.**

**Гэта і была адна з найважнейшых прычын, чаму ў Ватыкане вырашылі змяніць лацінскую мову на нацыянальныя. Я тут радзіў бы сп.Сяднёву зайсці ў любы каталіцкі храм (за выключэннем некаторых «адкольнікаў») любой краіны свету, каб пераканацца, што лацінская мова больш у іх не ўжываецца.**

**На заканчэнне хачу паставіць толькі пытанне: дык чаму праваслаўныя беларусы мусяць надалей маліцца на незразумелай для іх мове?..**

**Ян ЖУЧКА.**
Бельгія.

## ГІСТОРЫЯ АЙЧЫНЫ — ВАЙСКОЎЦАМ

*У.А.ПАЛУЯН*

# БЕЛАРУСЫ: ЖЫЦЦЁ Ў СКЛАДЗЕ ПОЛЬШЧЫ

## *(Заходняя Беларусь у 1921—1939 гг.)*

*(Працяг. Пачатак у № 45.)*

Уплывам сярод каталіцкай часткі насельніцтва на Палессі і Віленшчыне карысталіся польскія дэмакратычныя партыі — Польская партыя сацыялістычная (ППС), сялянская партыя «Вызволене». Гэтаму садзейнічалі патрабаванні дэмакратычных рэформ, абвешчаныя ў іх праграмах.

Сярод яўрэйскага насельніцтва гарадоў і мястэчак пераважалі ўплывы яўрэйскіх дробнабуржуазных дэмакратычных партый Бунда і Паалей-Цыена. Выступаючы пад лозунгам самастойнасці яўрэйскіх рабочых, яны неслі ідэі нацыянальнай адасобленасці яўрэяў, што адцягвала іх ад барацьбы за сацыяльныя патрабаванні, перашкаджала згуртаванасці з рабочымі іншых нацыянальнасцей.

Правыя сіяністкія партыі «Мізрахі», «Агудас Ізраэль» («Верныя Ізраіля») і іншыя насаджалі нацыяналістычныя ідэі выключнасці і выбранасці яўрэйскай нацыі.

Яшчэ ў другой палове 1921 г. у Заходняй Беларусі пачалі ўзнікаць падпольныя паўстанцкія арганізацыі. У канцы 1922 г. у іх налічвалася 5—6 тыс. чалавек, пераважна сялян. Дзейнічаючы невялікімі атрадамі, партызаны нападалі на паліцэйскія ўчасткі, гмінныя ўправы, вайсковыя патрулі. Яны змагаліся супраць польскай акупацыі, за зямлю, сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. У заходніх паветах — Гродзенскім, Лідскім, у Белавежскай пушчы партызанскія атрады ўзначальвалі беларускія эсэры. На ўсходзе — камуністы і рэвалюцыйна настроеныя актывісты. Сярод камандзіраў партызанскіх атрадаў і груп вызначаліся С.Ваупшасаў, К.Арлоўскі, Г.Шыманюк, Ф.Яблонскі і інш.

У чэрвені 1925 г. дэпутаты сейма Б.Тарашкевіч, С.Рак-Міхайлоўскі, П.Мятла і П.Валошын выйшлі з беларускага пасольскага клуба і ўтварылі клуб Беларускай сялянска-рабочай грамады. У маі—чэрвені 1926 г. Грамада аформілася як палітычная партыя. У склад яе Цэнтральнага камітэта ўвайшлі Б.Тарашкевіч (старшыня), С.Рак-Міхайлоўскі, П.Мятла, П.Валошын, М.Бурсевіч.

Праграма БСРГ змяшчала патрабаванні шэрага глыбокіх рэвалюцыйных дэмакратычных пераўтварэнняў. Ажыццяўленне гэтых мэт Грамада бачыла ў цесным саюзе сялян і рабочых. Праграма Грамады была блізкая і зразумелая для працоўных.

У маі 1926 г. у Польшчы адбыўся дзяржаўны пераварот. Да ўлады прыйшлі ваенныя на чале з маршалам Ю.Пілсудскім. Кампартыя спачатку заклікала працоўных падтрымаць Пілсудскага як прадстаўніка дэмакратычных сіл, але, зразумеўшы сваю памылку, павяла барацьбу супраць рэжыму санацыі, як празвалі яго ў народзе за абяцанні пілсудчыкаў ажыццявіць аздараўленне (санацыю) эканомікі і грамадскага жыцця. Супраць дыктатуры выступіла і Грамада. У другой палове 1926 г. Грамада ператварылася ў масавую арганізацыю. У пачатку 1927 г. больш за 2 тыс. яе гурткоў аб'ядноўвалі каля 120 тыс. членаў. Пераважную большасць іх складалі бяднейшыя і сярэднія сяляне. У арганізацыю ўступалі таксама рабочыя, грамадская бедната, прадстаўнікі інтэлігенцыі. Дзейнічалі 18 павятовых камітэтаў Грамады. Арганізацыя выдавала газеты, якія з-за праследаванняў часта мянялі сваю назву: «Жыццё беларуса», «Народная справа», «Наша справа», сатырычны часопіс «Маланка» і інш.

У Заходняй Беларусі ў сярэдзіне 1926 г. пачаўся ўздым вызваленчай барацьбы. Сяляне выступалі супраць аграрнай палітыкі ўрада, за выхаванне сваіх правоў на сервітуты (службовыя землі — пашы, выганы, вадапоі і інш.), ухіляліся ад уплаты падаткаў. Пашыраліся забастоўкі рабочых. У гарадах праводзілі шматлюдныя мітынгі і дэманстрацыі. Узмацнілася барацьба за дэмакратычныя і нацыянальныя правы, за школу на роднай мове. Працоўныя патрабавалі амністыі для палітзняволеных. У апошнія месяцы 1926 г. супрацьўленне народа ўладам стала паўсюдным і масавым.

Урад Пілсудскага вырашыў ліквідаваць Грамаду. Ноччу 15 студзеня 1927 г. ва ўсёй краіне пачаліся масавыя арышты камуністаў і актывістаў Грамады. Без згоды сейма, парушаючы Канстытуцыю, былі арыштаваны кіраўнікі арганізацыі (арыштавана 490 актывістаў). 21 сакавіка 1927 г. Грамада была забаронена. А ў лютым—маі 1928 г. у Вільні адбыўся судовы працэс над 56 кіраўнікамі і актывістамі Грамады. Нягледзячы на беспадстаўнасць абвінавачванняў, кіраўнікі Грамады былі асуджаны на 8—10 гадоў; астатнія на 3—6 гадоў турэмнага зняволення. Працоўныя Заходняй Беларусі адказалі на разгром Грамады рэзалюцыямі пратэсту, мітынгамі і дэманстрацыямі.

Дзейнасць Грамады з'явілася адной з самых яркіх старонак вызваленчай барацьбы працоўных Заходняй Беларусі. Грамада ўскалыхнула народныя масы і далучыла іх да актыўнага палітычнага жыцця, узняла іх класавую і нацыянальную свядомасць, веру ва ўласныя сілы, у магчымасць паспяховай барацьбы.

Ліквідацыя Грамады, рэпрэсіі затармазілі развіццё вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. У гэтых умовах КПЗБ імкнулася захаваць існуючыя і стварыць новыя дэмакратычныя арганізацыі, арганізаваць выступленні працоўных. 1928 г. адзначыўся ўздымам забастовачнай барацьбы рабочых.

На выбарах у сейм у сакавіку 1928 г. за кандыдатаў левых сіл было пададзена больш за чвэрць усіх галасоў. Абраныя дэпутаты Я.Гаўрылік, І.Дварчанін, Ф.Валынец, І.Грэцкі, П.Крынчык утварылі радыкальную фракцыю Беларускі сялянска-рабочы пасольскі клуб «Змаганне». Клуб аб'яднаў некалькі соцень чалавек былога актыву Грамады. Дзейнічалі яго 16 павятовых сакратарыятаў. Патрабаванні клуба супадалі з праграмай Грамады.

Значную ролю ў барацьбе за беларускую школу і культуру ў другой палове 20—пачатку 30-х гадоў адыграла культурна-асветніцкая арганізацыя Таварыства беларускай школы, створаная ў 1921 г. У 1926—1928 гг. таварыства перажыло бурны ўздым. Таварыства аб'ядноўвала больш за 14 тыс. членаў. Дзейнічалі 12 акруговых упраў. На з'ездзе 19 мая 1929 г. у склад Галоўнай управы былі выбраны прагрэсіўныя дзеячы беларускай культуры Ф.Стацкевіч (старшыня), Р.Шырма (сакратар), А.Лявецкая (старшыня кантрольнай рады), І.Дварчанін, Ф.Валынец, М.Пяткевіч і іншыя.

Эканамічны крызіс 1929-1933 гг. прывёў да новага абвастрэння сацыяльных супярэчнасцей і класавай барацьбы. Развіццю вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі спрыяла ўмацаванне левых сіл, якія да гэтага часу набылі значны вопыт барацьбы. КПЗБ стала вопытнай і загартаванай у барацьбе партыяй. У 1932 г. яна налічвала 3600 членаў, акрамя тых, хто знаходзіўся ў турмах. Дзейнічалі больш за 500 падпольных партыйных ячэек, 6 акруговых і больш 70 грамадскіх і раённых камітэтаў. Сфарміраваўся шматлікі рабочы і сялянскі актыў.

У першыя гады эканамічнага крызісу, нягледзячы на масавыя звальненні, рабочыя працягвалі абараняць свае сацыяльныя інтарэсы. У 1929—1931 гг. баставалі рабочыя шэрага прадпрыемстваў. У 1932—1933 гг. рабочы рух перажыў новы ўздым. Баставалі рабочыя ў Брэсце, Гродна, Пінску, Гайнаўцы, Мастах, на лесарасапрацоўках у Белавежскай пушчы, Слонімскім павеце. Усё часцей эканамічныя забастоўкі перарасталі ў палітычныя, суправаджаліся мітынгамі і дэманстрацыямі. Пачасціліся выпадкі захопу прадпрыемстваў рабочымі — т. зв. акупацыйныя стачкі. Усяго ў 1932 г. у Заходняй Беларусі адбылася 51 забастоўка, у якіх прынялі ўдзел 32,4 тыс. рабочых, у 1933 г. — 81 забастоўка з удзелам 36,7 тыс. рабочых.

У 1931 г. пачаўся ўздым сялянскага руху. Узмацнілася барацьба супраць памешчыкаў. Яна набывала розныя формы, ад адказу ад уплаты да масавых палітычных выступленняў.

Для падаўлення сялянскіх выступленняў улады пасылалі карныя экспедыцыі, учыняючы масавае збіванне людзей, руйнавалася маёмасць сялян. У 1931 г. карныя атрады дзейнічалі ў Брэсцкім, Кобрынскім, Навагрудскім і іншых паветах. У адказ на расправы сяляне месцамі сталі паліць панскія маёнткі, пераходзілі да партызанскай барацьбы. Урад накіраваў супраць партызан войска і паліцыю, увёў надзвычайныя суды. Толькі ў другой палове 1931 г. у Заходняй Беларусі было вынесена 44, а ў 1932 г. 76 смяротных прысудаў.

Барацьба сялян у Заходняй Беларусі ў 1931—1933 гг. дасягнула вялікай вастрыні і сілы. У гэтыя гады адбылося каля 500 выступленняў сялян, якія ахапілі каля 1500 вёсак. У іх удзельнічала 130—150 тыс. чалавек, або па 40—60 тыс. за год. Сялянскія выступленні пашыраліся на цэлыя гміны і паветы.

Аднак барацьба за нацыянальныя правы ў сувязі з ліквідацыяй легальных народных арганізацый у першай палове 30-х гадоў значна звузілася. Толькі ў 1931—1932 гг. улады закрылі больш за 200 гурткоў ТБШ. На развіцці нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі балюча адбіліся неабгрунтаваныя рэпрэсіі ў БССР над былымі кіраўнікамі Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі, Грамады, клуба «Змаганне». У ліку рэпрэсіраваных — Л.Родзевіч, Я.Бабровіч, А.Капуцкі, А.Клінцэвіч, С.Рак-Міхайлоўскі, П.Мятла, П.Валошын, М.Бурсевіч, І.Дварчанін, І.Гаўрылік, Ф.Валынец, І.Грэцкі, П.Крынчык.

Аслабленне легальнай работы рэвалюцыйна-дэмакратычнага актыву выкарысталі беларускія нацыянальныя і нацыяналістычныя групоўкі. У 1929—1930 гг. аформілася група на чале з А.Луцкевічам і Р.Астроўскім, якая прытрымлівалася палітычных пазіцый беларускай дробнай буржуазіі і нацыянальна-настроенай часткі інтэлігенцыі. Прыхільнікі яе дзейнічалі ў Беларускім студэнцкім саюзе, жаночым, дабрачынным і навуковым таварыствах. У 1930 г. група А.Луцкевіча, Р.Астроўскага заснавала грамадска-палітычную арганізацыю «Цэнтральны саюз культурных і гаспадарчых арганізацый». А ў 1932 г. замест яго — Таварыства беларускай асветы.

На пачатку 30-х гадоў некалькі пашырылася дзейнасць Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. Яна зноў змяніла сваю праграму, узмацніўшы яе клерыкальную накіраванасць. Прыватная ўласнасць аб'яўлялася асновай цывілізаванага прагрэсу грамадства. Норма пры надзяленні сялян зямлёй павінна была складаць такую колькасць зямлі, якую гаспадар мог апрацаваць сам або з дапамогай аднаго-двух работнікаў.

У 1934—1935 гг. вызваленчы рух на Заходняй Беларусі праходзіў у яшчэ больш цяжкіх умовах, чым раней. Пасля прыходу Гітлера да ўлады ў Германіі ўзмацнілася палітычная рэакцыя і ў Польшчы. У 1934 г. быў створаны канцэнтрацыйны лагер у Бярозе-Картузскай на Палессі. Тысячы камуністаў і радыкальна настроеных рабочых, сялян, прадстаўнікоў інтэлігенцыі былі кінуты ў турму і лагер, выселены з родных мясцін. У 1935 г. у Польшчы была прынята новая канстытуцыя прафашысцкага накірунку, якая заканадаўча ўводзіла аўтарытарнае праўленне. Закрываліся апошнія беларускія школы, гурткі ТБШ, іх бібліятэкі. У знешняй палітыцы ішло збліжэнне з гітлераўскай Германіяй.

Пад уплывам рабочага руху, дзейнасці левых сіл па стварэнні народнага фронту ажывілася барацьба сялян. Адначасова з патрабаваннем зямлі без выкупу ставіліся і больш памяркоўныя — адкласці тэрмін выплаты падаткаў, вызваліць ад падаткаў беднякоў, спісаць даўгі і інш. Шырокі водгук у краіне мелі выступленні сялян-рыбакоў у 1935—1936 гг. на буйнейшым у Беларусі возеры Нарач, вядомыя пад назвай паўстання нарачанскіх рыбакоў. У іх удзельнічала некалькі тысяч чалавек з больш чым 40 вёсак, якія выступілі супраць забароны свабоднага лову рыбы.

Беларускія сяляне выказвалі салідарнасць з барацьбой сялян Польшчы і Заходняй Украіны. У масавых выступленнях у Сувалкаўскім павеце вясной 1935 г. удзельнічалі польскія, літоўскія і беларускія сяляне. Выступленні ўкраінскіх сялян Валыні восенню 1936 г. былі падтрыманы сялянамі Кобрынскага і Брэсцкага паветаў. А калі ў жніўні 1937 г. пачалася агульнапольская забастоўка сялян, у якой удзельнічалі каля 10 млн. чалавек, яе падтрымалі сяляне Бельскага, Гродзенскага і Слонімскага паветаў.

*(Працяг будзе.)*

## *У СУСЕДЗЯЎ*

# КОМІ ПАМІРАЕ МОЎЧКІ?

Гэта не ваяўнічая Чачня. Народ комі, які спасціг вялікую навуку выжывання ва ўмовах тундры і палярных сцюж, аказаўся няздольным засцерагчы сябе ад занадта цесных абдымкаў вялікага суседа. І вось Расія, абавязаўшыся аберагаць малаколькасныя народы, што трапілі да яе ў залежнасць, многія дзесяцігоддзі садзейнічала разбурэнню іх самабытнасці і мовы, а ўрэшце і навакольнага асяродку. Так здарылася і з комі, дзе ў нетрах тундры на бяду тутэйшага насельніцтва адшукалі радовішчы нафты і газу. Спачатку папасы для аленяў здраталі гусеніцамі трактарнай тэхнікі і трасамі трубаправодаў, а цяпер вось сусветныя інфармацыйныя агенцтвы распаўсюдзілі паведамленні, што тундру залілі нафтай, хвалі якой няспынна паўзуць да Паўночнага Ледавітага акіяна.

Практычна толькі апошняе і ўстрывожыла ўсур'ёз Захад, бо спецыялісты мяркуюць, што адбылася катастрофа «як тэрытарыяльнага, так і акватарыяльнага маштабу» (маецца на ўвазе акваторыя Арктыкі). Некалі, нагадваюць журналісты, танкер фірмы «Эксан» наскочыў на рыф каля берагоў Аляскі і гіганцкая нафтавая пляма расплылася па затону. Тэлевізійшчыкі паказалі тады ўсяму свету, як моўчкі паміралі запэцканыя нафтай птушкі і марскія жывёлы. Фірме давялося не толькі арганізаваць ачыстку тэрыторыі, але і выплаціць штату Аляска мільярд долараў кампенсацыі. Комі, вядома ж, плаціць ніхто не будзе. Амерыканцаў жа, як сведчыць прэса, больш за ўсё ўражвае нават не маштаб экалагічнай катастрофы, а спакой расійскіх улад. Пра народ комі пакуль, здаецца, не ўспомніў ніхто. Ну а самі паўночныя людзі прывыклі паміраць моўчкі, да гэтага іх прывучыла бязлітасная да слабага прырода Поўначы.

**Ул.Ас.**

Мікалай КРЫЎКО

# СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПАТРАБАВА́ННЕ** (звычайна на што; афіцыйны дакумент з просьбай выдаць што-н. або накіраваць каго-н. у чыё-н. распараджэнне) *Неўзабаве.. ў кантору да нас зайшоў чалавек у паношаным брызентавым спяцоўцы і падаў Собічу патрабаванне на кісларод* (Скрыган), **ЗАЯ́ЎКА** *Пачалі паступаць заяўкі на набыццё саджанцаў* («Маладосць»).

**ПАТРА́ЦІЦЦА** (на каго-што і без дап.; зрабіць грашовыя траты) *[Халуста:] — У мяне цяпер грошай няма, бо я патраціўся на гэтую малатарню* (Чарнышэвіч), **РАСХО́ДАВАЦЦА** размоўнае *Расходавацца на падарункі*, **РАСТРА́ЦІЦЦА** *Растраціцца на пакупкі*, **ПРАТРА́ЦІЦЦА** *Пратраціцца на рамонт кватэры.* — Параўнайце: **Траціцца, Траціць.**

**ПАТРАШЫ́ЦЬ** каго (вымаць вантробы з забітай жывёліны або рыбіны) *[Дзядзька:] — Будзеш патрашыць рыбу і класці ў крапіву...* (Міська). *Суздалеў тым часам патрашыў ракаў, смакаваў і пад самы канец ужо няўважліва слухаў...* .(Чыгрынаў), **ТРЫБУШЫ́ЦЬ** разм. *На пагорку два цецерукі з-пад самых ног вылецелі, каршуна ўзагнаў, які на пні сойку трыбушыў* (Ляўданскі) //*што* (разварочваць, разрываць што-н., даставаць, выцягваць усё тое, што знаходзіцца ў чым-н.) разм. *Тры немцы патрашылі ранцы і рэчавыя мяшкі палонных* (С.Александровіч). *Але Арцём не паспеў запрэгчы каня, каб адвезці дровы яму [купцу] у двор, як каля яго воза выраслі два паліцэйскія, а трэці ў цывільным патрашыў той клумачак* (Машара). *Сядзеў бы [Юрка] ля цапоў з Тодарчыкам ці Волькай і рэзаў бы перавяслы — трыбушыў снапы* (Пташнікаў). *Торба была нечым напакавана. Але хлапчукі не сталі трыбушыць, прынеслі, як ёсць, да стайні* (Чыгрынаў).

**— Патрашэ́нне, трыбушэ́нне.**

**ПАТРЭ́БА** *у кім-чым і якая* (тое, што неабходна, патрэбна або адчуванне неабходнага, патрэбнага ў кім-, чым-н.) *Адчуваецца вострая патрэба ў зямлі, а народ множыцца* (Колас). *Праходзілі дні, паступова гэта стала маёй радаснай патрэбаю, і я пачынаў чакаць прыходу поезда ўжо з самага ранку* (Кулакоўскі), **ПАТРЭ́БНАСЦЬ** *у кім-чым Патрэбнасць у сродках комплекснай аўтаматызацыі хутка ўзрастае* («Звязда»). *[Лясніцкі:] — Стаць разведчыцай ты зможаш у любы момант, калі гэта спатрэбіцца. А такая патрэбнасць будзе часта, не сумнявайся* (Шамякін). — *Пар.* **Неабходнасць.**

**ПАТРЭ́БНЫ** (такі, без якога цяжка, немагчыма абысціся) *Забрала Аленка свае пакуначкі, кніжкі і ўсе патрэбныя рэчы* (Колас). *Доктар прыйшоў раней, чым праз гадзіну, і прыйшоў не толькі з пустым мяшком, але і з патрэбным інструментам і лякарствам* (Пальчэўскі). **НЕАБХО́ДНЫ** ўзмацняльнае *Зямлю прарвала помпай. Спачатку ў адным.. месцы, падкінуўшы трэскамі ў неба неабходны для захопнікаў мост* (Брыль). *Андрэй абвясціў загад Васільева, зрабіў неабходныя распараджэнні* (Кулакоўскі).

**ПАТУРА́ЛЬНІК** (той, хто патурае каму-, чаму-н., паблажліва адносіцца да каго-, чаго-н.) *Ён [Панікові́ч] з маланкавай хуткасцю чалавека, які трапіў у бяду, сцяміў небяспеку, што навісла над ім, патуральнікам і ўдзельнікам злачынных спраў Кузьмы Кузьміча* (Быкаў), **ПАТАКА́ЛЬНІК** разм.

**ПАТУРА́ННЕ** (паблажлівыя, нястрогія адносіны да каго-, чаго-н.) *Хоць патуранне было і шкодна з педагагічнага боку, і Лабановіч гэта ведаў, але адолець гэту сваю слабасць не мог ніякім чынам* (Колас). *І першым будзе адказваць ён, Крэст, бо гэта ягоным патураннем выбухнула бойка. Вось табе і «даў магчымасць правучыць»* (Караткевіч), **ПАТО́ЛЯ** *[Бацька:] — Ты будзеш яшчэ даваць яму [сыну] патолю!..* (Баранавых). — *Я, пане палкоўніку, — гаманіў, трымаючы чарку ў руках, Панятоўскі, — заўсёды мувіў, цо не вольна даваць патолі хамам...* (Чарот), **ПАТА́ЧКА** разм. *Сам Сашка, як паказалі сведкі, пры патачцы таго ж паліцэйскага, з рэштай сваёй хеўры даў упоцемку лататы* (Машара). *Лячуся і працую, не даючы сабе ніякай патачкі* (Сяргейчык), **ПАБЛА́ЖКА** разм. *І вось выходзіць, што сын на бацьку глядзіць з нейкай паблажкай, даруе яму яго міжвольную памылку, а бацька якраз таксама глядзіць на сына* (Зарэцкі). *Нашы інстытуцкія арганізатары спорту хацелі зацягнуць яго [Міколу Зыля] у баскетбольную каманду, абяцалі ўсялякія паблажкі* (Нядзведскі).

**ПАТУРА́ЦЬ** (каму-чаму; паблажліва, нястрога адносіцца да каго-, чаго-н.) *Каб падтрымаць Шамоту на першым часе, Варановіч патураў яму: то кармоў для жывёлы падкіне, то насення гатунковага дасць, то мінеральных угнаенняў лішку нейкую выкраіць* (Дуброўскі). *Змалку песцілі хлапчука, а потым патуралі яго свавольству* (Гроднеў), **ПАТАКА́ЦЬ** разм. *Баранок як быццам ва ўсім згаджаўся з Сомікам, патакаў яму* (Крапіва). *[Аграном:] — Сардэчна дзякую вам за давер'е, за пашану, Але дамовімся адразу грамадой, Калі рабіць на полі, дык рабіць з душой, Я абібокам патакаць не стану* (Валасевіч).

**ПАЎГО́ЛЫ** (ледзь прыкрыты адзеннем, амаль голы) *На тым баку, паміж лазы й трысця, З густых кустоў вылазячы паволі, Ішоў дзікун, абдзёрты і паўголы, Трымаючы з анучкі белы сцяг* (З.Астапенка), **НАПАЎГО́ЛЫ** *На нарах і на падлозе ляжаць і сядзяць напаўголыя, ушчэнт збітыя людзі* (Г.Колас), **ПАЎАГО́ЛЕНЫ** *Нават у зімовую пару ля дзвярэй невысокіх дамоў сядзяць змерзлыя паўаголеныя праституткі* (Кобец-Філімонава).

**ПАЎЗКОМ** (пра спосаб перамяшчэння: прыпадаючы тулавам да паверхні і перабіраючы рукамі і нагамі) *Да пярэдняга краю прыйшлося прабірацца то паўзком ад ямкі да ямкі, то перабежкамі* (Мележ). *Толькі паўзком, папластунску, можна было пераадолець кіламетровы прамежак ад узлесся да першых хлявоў* (Марціновіч), **ПАЎЗУ́ЧЫ** *Перамяшчацца па падлозе паўзучы*, **ПО́ПАЎЗКАМ** разм. *Прабірацца да хмызняку попаўзкам.*

---

УДАКЛАДНІМ

Леанід БУРАК,
заслужаны работнік народнай адукацыі Беларусі, доктар філалагічных навук, прафесар

# Знакі прыпынку ў складаназалежных сказах

## п) Складаназалежныя сказы з даданымі далучальнымі часткамі

1. Даданыя далучальныя часткі звязваюцца з галоўнай часткай складаназалежнага сказа пры дапамозе злучнікаў і злучальных слоў **што, калі, так што, тым больш што** і інш., перад якімі звычайна ставіцца коска: *Спявала яна з праўдзівым пачуццём, што рабіла вельмі добрае і прыемнае ўражанне* (Якуб Колас). *Адзін маленечкі сіняк ляцець да сонца згоду даў, чаго ніхто і не чакаў* (У.Дубоўка). *Крайнія хаты сталі амаль пад самымі соснамі, так што шышкі і хвоя залятаі ў двары* (І.Шамякін).

**Заўвага**. Часціцы і мадальныя словы пры злучніках і злучальных словах коскай ад іх не аддзяляюцца: *Дужа баялася яна Васіля, асабліва калі ўваходзіў ён у злосць* (Якуб Колас). *Не трэба плакаць, нават калі за плячыма вялікае гора* (І.Новікаў).

2. Калі даданая далучальная частка выдзяляецца лагічна, то пры наяўнасці працяглай паўзы паміж ёй і галоўнай часткай складаназалежнага сказа ставіцца працяжнік: *Паўлюк адхіснуўся і пільна паглядзеў дзеду ў вочы — ці няма ў іх часам вясёлых іскраў жарту?* (І.Шамякін). *Глыбокае мора — чаго там казаць!* (М.Лужанін). *Блiснула іголка — скуль толькі яна ўзялася* (М.Лынькоў).

**Заўвага.** Пры большай паўзе і самастойнасці прэдыкатыўных частак (асабліва калі далучальная суправаджаецца дадатковым адценнем устаўкі) паміж імі можа ставіцца коска і працяжнік: *Сонца ў той дзень уставала роўна ў чатыры, — як сказана ў календары* (А.Куляшоў).

Калі ж лагічна выдзяляецца галоўная частка, то пры працяглай паўзе (часта можна ўставіць слова **а іменна**) ставіцца двукроп'е: *Прачнуўся Ракуцька вельмі рана: калі яшчэ толькі-толькі заружавела неба на ўсходзе* (Кузьма Чорны). *Ловіць шолах таямнічы алень над мёртвай цішынёй: ці не ходзіць паляўнічы тою дзікай старaной?* (А.Звонак). *Одум яго ўзяў позна: калі занядужала ноч на ўсходзе* (Кузьма Чорны).

3. Калі даданая далучальная частка раскрывае змест слова адно ў галоўнай частцы, то ў залежнасці ад лагічнага выдзялення гэтага слова і даданай часткі можа ставіцца працяжнік або двукроп'е: *Усе чакалі аднаго — калі пачнецца крыгаход* (У.Краўчанка). *Ад поля прасіў я аднаго — былі каб крупы і аладкі* (А.Астрэйка). Але: *Мяфодзій Шляхтун думаў толькі пра адно: каб ніхто не перашкаджаў яго планам* (П.Кавалёў). *Дзеці чакалі аднаго: калі наступіць вясна* (Змітрок Бядуля).

4. Калі даданая далучальная частка знаходзіцца ў сярэдзіне галоўнай часткі складаназалежнага сказа, то яна выдзяляецца коскамі з абодвух бакоў: *Надвор'е, як і трэба было чакаць, змянілася* (М.Лынькоў). *Сам я, калі што якое, знайду сабе месца* (Э.Самуйлёнак). *Свае рыдлёўкі, каб не збіць руку, мы аправілі на гладкія дзяржальны* (М.Лужанін).

Але калі такая частка адрозніваецца ўзмоцненай інтанацыяй і суправаджаецца дадатковым адценнем устаўкі, тады яна выдзяляецца пры дапамозе працяжніка: *На стромкім беразе ракі — дзе гліна і пяскі — капалі ямкі пад сад калгасны* (М.Лынькоў). *А я — каб вы ведалі — сала вельмі люблю* (Міхась Чарот).

5. Пры парцэляцыі далучальныя часткі становяцца самастойнымі сказамі, якія ўваходзяць у структуру складанага сінтаксічнага цэлага і аддзяляюцца ад другога кропкай або шматкроп'ем: *Ніводнага ўсплёску. Пакуль Віктар не разбудзіў цішу блешняй спінінга* (І.Шамякін). *У шчыліне аконнай рамы тонка і візгуча вые вецер. Нібы хто грае на грэбені* (Змітрок Бядуля). *Я надумаў ісці адзін. Тым болей што я ўжо крыху ведаў навакольную тайгу* (А.Чарнышэвіч). *Нас разбудзіў нечы грубы голас... Калі добра ўжо развіднела* (С.Баранавых).

---

Здзіслаў СІЦЬКО

ЧЫТАЕМ КАЗКІ

# ПАДЧАРКІ НАШАЙ КУЛЬТУРЫ

***З папярэдняй часткі нарыса ведаем, што з дапамогай выгадаванага ім каня герой казкі «Іван і кусюлька», апынуўшыся ў «царскім горадзе», перамагае шасці-, дзевяці- і дванаццацігаловага змея, ратуе царскіх дачок і ўрэшце жэніцца з царэўнай. Так ён, можна меркаваць, дасягне і царскага трона, чым у іншых нашых казках з падобным сюжэтам і заканчваюцца прыгоды героя. Вучоныя нават ведаюць спецыяльны тэрмін для падобнай з'явы — абрання цара з дапамогай каня.***

## Гіпамансія — арыйская традыцыя

Некаторыя асаблівасці казкі «Іван і кусюлька» патрабуюць перш сказаць, што ў гэтым народным творы з цягам часу вылучыўся маральны, чалавечы аспект учынкаў героя — імкненне абараніць сваю годнасць, сцвердзіць сваё вяршэнства і даказаць, што ён здолее дамагчыся жыццёвай мэты. Яна ж у Іваньки, як і ў, можна меркаваць, іншых юнакоў — выйсці ў людзі, стаць чалавекам, вартым пашаны грамадзянінам. З волі вычвора герой гаворыць словамі нашага — XX стагоддзя — сучасніка, што перайначыў народную прымаўку.

*— Ну, прашчавай, татка! Папомні ты: я буду ногі мыць, а ты тую ваду будзеш піць!*

Даўней жа юнак не мог дазволіць сабе так сказаць не толькі роднаму бацьку. І наогул, нават знаходзіцца сярод старэйшых ён не меў права. Пачынаючы ад першабытнага ладу, свой стан у грамадстве кожны чалавек павінен быў здабыць, паступова пераходзячы з аднаго ўзроставага кола ў другое.

Пасвячэнне ў дарослыя — у нас даўней гэта называлася пастрыжынамі — было вельмі складаным. Юнак мусіў набрацца сілы і прайсці шматлікія выпрабаванні. Гэта адбілася і ў казцы «Іван і кусюлька». Мудры конь дапамагае герою — Іванька становіцца «такім малайцом», што «як дзьмухнуў», то зямлю выраўняў, яна стала гладкай, як ток. І калі ініцыяцыя завяршалася, то юнак да жаніцьбы павінен быў знаходзіцца дзесь па-за домам, пераважна на пляменным памежжы, аберагаючы родную зямлю ад ворага. Тым жа займаецца і наш герой — ён змагаецца з змеямі.

Іваньку ва ўсіх яго справах дапамагае Конь, што ўмее гаварыць, — чарадзейная жывёліна. Як ужо згадвалася, вучоныя лічаць, што індаеўрапейцы, з якіх пайшлі і нашы прашчуры, першымі прыручылі каня, закілзалі яго і пачалі ездзіць вярхом.

Цікавымі ўяўляюцца і пахаванні індаеўрапейцаў. Нябожчыкаў, абсыпаных чырвонай фарбай вохрай, клалі ў простыя чатырохкутныя ямы на пасыпаную мелам зямлю (бела-чырвона-бела!). Відаць, спалучэнне чырвонага і белага колераў мела нейкае асаблівае сакральнае значэнне для нашых прашчураў. А яшчэ трэба нагадаць і пра такую асаблівасць: нябожчыкаў хавалі асобна, і над кожнай магілай насыпалі курган. (Такіх курганаў на нашай Бацькаўшчыне шмат і цяпер.) Згаданыя пахаванні прымусілі археолагаў задумацца, чаму і калі такое адбывалася. Яны пагадзіліся з думкай, што гэта было ў час заняпаду ў індаеўрапейцаў родавага ладу, калі з калектыву пачалі вылучацца найбольш актыўныя асобы. Імі былі прафесійныя воіны, якія да таго ж асядлалі каня. Як бачым, вершнік, выява якога намалявана на нашым нацыянальным гербе, скача ўжо сама меней шэсць тысяч гадоў.

Археолагі не толькі вызначылі, калі вершнікі пачалі «ваяваць» з змеямі, але і далі назву таму грамадству — старажытнаямная культура, паводле спосабу пахавання. «Ямныя» магілы знаходзяць на вялікай прасторы паміж рэкамі Урагам і Днястром. Але такія пахаванні сустракаюцца і ў Заходняй Еўропе, дзе носьбітаў гэтай звычкі назвалі культурай баявых сякер і шнуравай керамікі. (Тэрыторыя нашай краіны ўваходзіць у зону гэтай культуры.) Вядома, засяліць такую тэрыторыю можна было толькі на кані. Яшчэ раз нагадаем, што навуковы свет звязвае тых першых вершнікаў з індаеўрапейцамі, якіх шмат хто называе арыямі ці арыйцамі. Іх галоўны культ — культ каня. З яго дапамогай, як у казцы «Іван і кусюлька», абіраліся правадыры. Некаторыя з такіх выпадкаў вядомыя і гісторыі. Так, прыкладам, славуты цар персаў Дарый I, які, дарэчы, рабіў паходы (пэўна ж, на кані) аж за Прыпяць, сеў у 522 годзе да Х.н. на трон вялікай імперыі Ахеменідаў, заручыўшыся «падтрымкай» даўняй арыйскай традыцыі. Ён, як вядома, узначаліў змову семярых знатных персаў супраць цара. А пасля трэба было выбраць, каму ж аддаць карону. Паводле антычных аўтараў, ніхто з змоўшчыкаў не хацеў саступіць. Спрэчку вырашылі так. Раніцой, на світанні, усе павінны былі прыехаць на вызначанае месца. І чый конь першы прывітае ўзыходзячае сонца, той і стане царом. Першым заіржаў конь Дарыя.

*(Заканчэнне будзе.)*

БЕЛАРУСКАЯ МОВА — МОВА НАВУКІ

Станіслаў БЯЛЯЎСКІ,
Васіль ЮФЕРАЎ

> ...Цэльнасць і гармонію народнага слова парушыла чужая граматнасць і чужыя панаванні над народам.
> **В.Ластоўскі**

# ЗМЯНЕННІ МАТЭМАТЫЧНАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ ЗА ЧАС З 20-Х ПА 90-Я ГАДЫ

Праблема стварэння, развіцця і функцыянавання беларускай навуковай тэрміналогіі звязана з пераходам на беларускамоўнае выкладанне ў школах, ВНУ, з неабходнасцю весці навуковую і тэхнічную дакументацыю на дзяржаўнай мове, з існаваннем яе як мовы навукі. Пэўныя вынікі развязання названай праблемы ў галіне матэматыкі адзначаны выданнем у апошні час двух грунтоўных слоўнікаў: Т.Сухая, Р.Еўдакіменка, В.Траццякевіч, Н.Гудзень. Тэрміналагічны слоўнік па вышэйшай матэматыцы для ВНУ (Менск, 1993); Радыно Я.В., Шуба П.П. и др. Русско-белорусский математический словарь (Минск, 1993). Матэматычная тэрміналогія, пададзеная ў іх, — адметная, створаная з выкарыстаннем тэрмінатворчых сродкаў нашай мовы.

Неабходна заўважыць, што ствараць беларускую навуковую тэрміналогію пачалі ў 20-я гады, калі быў заснаваны Інстытут беларускай культуры з тэрміналагічнай камісіяй пры ім. Былі выдадзены 24 выпускі беларускай тэрміналогіі па прыродазнаўчых і тэхнічных дысцыплінах. Першымі надрукаваны тэрміны па элементарнай матэматыцы (Беларуская навуковая тэрміналогія. Вып. 1. Элементарная матэматыка. Менск, 1922). У 1927 годзе выдадзены дапоўнены «Слоўнік матэматычнае тэрміналогіі» (праект) (Менск, 1927).

Вядомыя грамадскія дзеячы К.Дуж-Душэўскі і В.Ластоўскі выдалі ў 1923 годзе ў Коўне «Слоўнік геаметрычных і трыганаметрычных тэрмінаў і сказаў (расійска-беларускі і беларуска-расійскі)».

Гэтыя здабыткі сталі асновай для напісання дапаможнікаў і падручнікаў. Шмат якія тэрміны ўвайшлі ў агульныя слоўнікі таго часу.

Але параўнанне матэматычнай тэрміналогіі гэтых выданняў з тэрміналогіяй школьных падручнікаў 60—80-х гадоў — дзе яна толькі і захавалася — паказвае, што ўсе набыткі тэрмінатворчасці 20-х гадоў амаль поўнасцю страчаны.

Нам падаецца вельмі важным прасачыць змены, што адбываліся ў гэтай сферы ўжывання мовы на працягу савецкага часу беларускай гісторыі. Для аналізу могуць быць скарыстаныя: школьныя падручнікі па матэматыцы, падручнікі па вышэйшай матэматыцы для ВНУ, навуковыя артыкулы, надрукаваныя ў БелСЭ, часопісах АН Беларусі, БДзУ (БДУ), слоўнікі спецыяльныя і агульныя.

Захавалася даволі значная колькасць школьных падручнікаў з 20—30-х гадоў па матэматыцы, напрыклад «Круталевіч А.П. Элементарная алгебра. Ч.1. Берлін, 1922. Ч.2. Менск, 1924», «Астроўскі Р. Арытмэтычны задачнік. Вільня, 1928», «Круталевіч А., Міцкевіч М. Трыганаметрыя. Менск, 1927», «Астраб А. Курс досьледнай геометрыі. Менск, 1925», «Элементарная алгебра паводле Кісялёва. Вільня, 1922». Сярод іх ёсць як арыгінальныя, напісаныя беларускімі навукоўцамі і выкладчыкамі, так і перакладзеныя з расійскіх выданняў. Але ўсіх іх аб'ядноўвае скарыстанне адзіных прынцыпаў тэрмінаўтварэння, асноўным з якіх быў прынцып грунтавання на ўласнамоўных сродках для стварэння беларускай матэматычнай тэрміналогіі. Адзначым, што гэтая тэрміналогія не была кананізаванай, яна ўвесь час удакладнялася і ўдасканальвалася. Напрыклад, не вельмі ўдалыя *раўнаванне, рабро, вытвар, рэчавісты* пазней былі заменены на ***раўнанне, кант, здабытак, рэчаісны***. Пазітыўным вынікам такога працэсу з'явіўся б натуральны адбор найбольш трапных слоў для навуковых тэрмінаў.

Але на мяжы 1933—1934-х гадоў адбыліся істотныя змяненні тэрміналагічнай сітуацыі, звязаныя з прыняццем пастановы пра ўпарадкаванне беларускага правапісу. Гэтая, так званая «рэформа правапісу» на самай справе закранула глыбінныя пласты беларускай мовы, змяніла яе фанетыку, навязала элементы расійскамоўнага словаўтварэння, засмеціла беларускую мову расійскай лексікай. Як прыклад, можна нагадаць пераклады «Папова Н. Падручнік арытмэтыкі. Менск, 1933», «Папова Н. Падручнік арыфметыкі. Менск, 1934» аднаго і таго ж маскоўскага падручніка, якія з'яўляюцца стэрэатыпнымі па змесце, але выглядаюць напісанымі на розных мовах. Пададзім прыклады тых змяненняў, што кідаюцца ў вочы з першых іх старонак:

*разьдзел першы — глава першая, лічыльнікі — шчоты, у межах тысячы — у прэдзеле тысячы, паказаны квадрат — ізабражон квадрат, развязаньне — рашэнне, астача — астатак, хуткае — быстрае, акружына — акружнасць.*

У канцы 30-х гадоў арыгінальныя беларускія выданні знікаюць, у большасці разам з іх аўтарамі. Адбываецца поўная уніфікацыя навучальных праграм і зместаў школьных падручнікаў па ўсім СССР, а разам з гэтым усё больш русіфікуецца і тэрміналогія, з'яўляюцца такія «шэдэўры» тэрмінатворчасці, як *адвображанне, трохчлен, апрадзяліцель, ураўненне, узрастаючая*. Адначасова пачынаецца шырокае ўжыванне для слова- і тэрмінаўтварэння неўласцівых беларускай мове прыставак, канчаткаў і суфіксаў, у прыватнасці такіх, як *-ір-, -ем-, -уч-, -юч-*.

Падручнікаў па матэматыцы для вышэйшай школы ў даваенныя гады было выдадзена мала. Гэта арыгінальныя падручнікі А.Круталевіча («Элементы вышэйшай матэматыкі». Вільня, 1922), Ц.Бурстына («Курс дыфэрэнцыяльнай геаметрыі». Менск, 1933), І.Багаяўленскага («Аналітычная геаметрыя». Горкі, 1932), некалькі метадычных распрацовак, а таксама пераклады вядомых расійскіх падручнікаў І.І.Прывалава і У.І.Смірнова. (У 40—80-х гадах навучальная літаратура па матэматыцы на беларускай мове ўвогуле не выдавалася.) Добрай беларускай мовай вылучаюцца кнігі А.Круталевіча, І.Багаяўленскага і пераклад «Аналітычнай геаметрыі» І.І.Прывалава (1934 г.), а ў выдадзеных пазней тамах У.І.Смірнова ўжо поўнасцю знікае беларуская адметнасць тэрмінаў і каларыт самой мовы. Словы калькуюцца, а часцей за ўсё беларускія тэрміны замяняюцца расійскімі; з'яўляюцца *точка, ось, рашэнне, чотны лік, пастаянная, прырашчэнне...*

Аналагічная тэрміналагічная сітуацыя назіраецца ў артыкулах ды іншых навуковых выданнях па матэматыцы. Як прыклад паслядоўнага скарыстання беларускай тэрміналогіі можна нагадаць І.К.Багаяўленскага «Цэнтр важкасці пяцёххутніка». Зап.Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі сельскай і лясной гаспадаркі. Т.10. 1929, Ц.Л.Бурстына «Матэматычныя працы» (Менск, 1932), Ц.Л.Бурстына «Да характарыстыкі роўніцы, шаравых і цыліндрычных паверхняў» (Менск, 1933), А.П.Круталевіча «Разьвязаньне лікавых раўнаньняў спосабам дэдукцыйнай ітэрацыі» (Працы БДУ, 1928. № 17—18), пазней матэматычныя артыкулы на беларускай мове амаль знікаюць. Трэба заўважыць, што часопіс «Весці Акадэміі навук БССР» да апошняга часу ўсё ж друкаваў асобныя матэматычныя артыкулы на беларускай мове, але іх тэрміналогія не мела беларускай адметнасці.

Тэрміналагічная сітуацыя, безумоўна, знаходзіла сваё адлюстраванне ў агульных слоўніках. Прасочым на асобных, але вельмі характэрных прыкладах, зафіксаваных найбольш пашыранымі слоўнікамі. У М.Байкова, С.Некрашэвіча («Беларуска-расійскі слоўнік». Менск, 1926) тэрмін «решить» (задачу) падаецца як ***развязаць***, а «решение» — як ***развязанне*** (працэс) і ***развязак*** (вынік). Слова *рашэнне* ўзнікае ў матэматычнай літаратуры пасля 1933 года. У «Руска-беларускім слоўніку» (Менск, 1937) слова *развязаць* канчаткова выкідваецца з мовы, але затое ўзнікае такая «пярліна», як *«решённая задача — рэшаная задача»*. «Постоянная величина» заўсёды была «***сталай велічынёй***» ва ўсёй матэматычнай літаратуры, і гэта зафіксавана ў «Беларускай навуковай тэрміналогіі» (Вып.1. «Элементарная матэматыка». Менск, 1922) і ў М.Байкова, С.Некрашэвіча («Беларуска-расійскі слоўнік». Менск, 1926). Але ў «Русско-белорусском словаре» (Москва, 1953) яна змянілася і ўзнікае зрусіфікаваны сінонім: «*сталая (пастаянная) велічыня*», што пацверджана і далей у «Русско-белорусском словаре» (тт.1, 2. Менск, 1982). Тэрмін «*неперарыўная*» ўвогуле не падаецца ніводным спецыяльным ці агульным слоўнікам, аднак прысутнічае ў БелСЭ, для чаго, безумоўна, няма ніякіх падстаў.

Пададзены агляд сведчыць, што на мяжы 1933—34-х гадоў адбылася сапраўдная тэрміналагічная катастрофа. Асноўнай мэтай змяненняў было набліжэнне тэрміналогіі і самой мовы да рускай, паданне беларускай мовы як дыялекта рускай, а як палітычны вынік гэтага — «слияние народов и наций в единую советскую семью». З непасрэднасцю, што мяжуе з цынізмам, пра гэтае ж заяўлена ў прадмове да слоўніка «Русско-белорусский словарь» (Москва, 1953); цытата: «В свете сталинских работ о словарном составе языка заново был просмотрен и настоящий Русско-белорусский словарь... ...белорусский народ, верный дружбе народов, оберегал чистоту своего языка, пополняя его из неиссякаемых источников русского языка». «Вялікі моваэнаўца» памёр, але справы яго жывуць яшчэ да нашых часоў.

Ёсць усе падставы лічыць, што сучасны стан матэматычнай тэрміналогіі школьных падручнікаў і іншых выданняў, зафіксаваны нават некаторымі слоўнікамі (У.Т.Воднеў, А.Ф.Навумовіч, Н.Ф.Навумовіч «Малы матэматычны слоўнік». Менск, 1994), не з'яўляецца вынікам эвалюцыйнага развіцця, а навязаны беларускай мове штучна, пад непарыўным і доўгатэрміновым уціскам, які можна кваліфікаваць як ціхі, паўзучы генацыд.

Выданне новых слоўнікаў, скарыстанне іх лексікі ў падручніках і задачніках, якія падрыхтаваны дзяржаўнымі выдавецтвамі, пашырыць распаўсюджванне беларускай тэрміналогіі. У выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя» вялікім калектывам матэматыкаў падрыхтавана да выдання грунтоўная Матэматычная энцыклапедыя, якая зафіксуе многія станоўчыя тэндэнцыі беларускага тэрмінаўтварэння. Вопыт працы над гэтымі выданнямі паказвае, што беларуская мова мае ўсе магчымасці для стварэння аўтэнтычнай навуковай тэрміналогіі.

---

*Ужо некалькі гадоў нашы навукоўцы распрацоўваюць беларускую хімічную тэрміналогію. Прапануем чытачам сістэму назоваў хімічных элементаў, зацверджаную Тэрміналагічнай камісіяй ТБМ імя Ф.Скарыны.*

Яраслаў МІЛЯШКЕВІЧ, кандыдат хімічных навук.
Зміцер САНЬКО, кандыдат біялагічных навук.
Аляксей ГЛУШКО

# Назовы хімічных элементаў

Першачарговай задачай стварэння сучаснай фізічна-хімічнай тэрміналогіі з'яўляецца ўнармаванне назоваў хімічных элементаў. Наяўны прынцып пабудовы беларускіх найменняў сфармаваны пад уплывам расійскай хімічнай наменклатуры. Некаторыя з іх, запазычаныя з расейскай мовы («свінец», «сурма», «мыш'як»), з'яўляюцца чужымі паводле духу не толькі беларускай мовы, але і ўвогуле славянскай моўнай сістэмы.

Іншыя ж, а іх большасць, як і ў расійскай мове, утварыліся ад лацінскай формы з выкарыстаннем фіналі **-ій/-ый**, не ўласцівай беларускай мове. Таму пытанне афармлення і адаптацыі лацінскіх этымонаў у беларускай мове паўстала заканамерна.

У аснову стварэння беларускіх назоваў хімічных элементаў пакладзены патрабаванні наменклатурных правілаў Камісіі IUPAC — Міжнароднага саюза тэарэтычнай і дастасоўнай хіміі, распрацоўкі Тэрміналагічнай камісіі Інстытута беларускай культуры, а таксама некаторыя канцэптуальныя падыходы Ул.Паўловіча.

Галоўны прынцып утварэння найменняў — іх пераклад з лаціны і адаптаванне да беларускай мовы з максімальным захаваннем лацінскай формы ў пісьмовым напісанні. У выніку стала магчымым адмовіцца ад штучнай для беларускай мовы фіналі-суфікса **-ій/-ый**, навязанай нашай мове русіфікацыяй, і аформіць іншамоўныя тэрміны ў адпаведнасці з заканамернасцямі беларускай мовы і патрабаваннямі міжнародных правілаў.

У адпаведнасці з правіламі IUPAC усе назовы хімічных элементаў утвораны ад лацінскіх формаў. Паводле прынцыпаў выкарыстання і ўтварэння назовы іх можна падзяліць на дзве групы.

Першую групу складаюць найменні 15 элементаў, якія маюць уласныя нацыянальныя назовы як у беларускай, так і ў іншых славянскіх і заходнееўрапейскіх мовах. Аўтарамі прынята канцэпцыя, паводле якой кожнаму элементу надаецца міжнародны афіцыйны (лацінскі) назоў, а традыцыйнае, нацыянальнае найменне выкарыстоўваецца поруч з назовамі IUPAC (табл.1). Такая практыка ўжывання двух адпаведнікаў характэрна для шэрага краін свету. Напрыклад, у ангельскай хімічнай літаратуры выкарыстоўваюцца два адпаведнікі для азоту, жалеза, срэбра, ртуці (табл.2. Гл. у наступным нумары «Нашага слова»).

Другая група аб'ядноўвае найменні астатніх элементаў, якія ўтвараюцца ад поўнага лацінскага назову або шляхам захавання лацінскай асновы без канцавых фармантаў.

ПЕРШАЯ ГРУПА. Афіцыйныя назовы 8 хімічных элементаў утвораны ад лацінскай формы шляхам адымання канцавых фармантаў (-ium, -um, -eum, -ius): аксыген, гідраген, нітраген, карбон, сыліц, мэркур, аргент, арсэнік. Астатнія назовы 7 хімічных элементаў захоўваюць поўную лацінскую форму: аўрум, купрум, плюмбум, станум, стыбіюм, фэрум, сульфур. Такі падыход рэалізаваны для назоваў элементаў, лацінская аснова якіх аднаскладовая.

У якасці варыянтаў прапануюцца традыцыйныя беларускія назовы хімічных элементаў, якія шырока ўжываліся або выкарыстоўваюцца сёння ў хімічнай тэрміналогіі: кісларод, вадарод, азот, вугаль, крэмень, ртуць (жывасрэбра), серабро (срэбра), золата, медзь, зялеза (жалеза), волава, цына, антымон, аршэнік, серка. Апошнія 5 назоваў у 30-х гадах былі неабгрунтавана заменены на расійскія: Pb, волава на «свінец»; Sn, цына на «волава»; Sb, антымон на «сурму»: As, аршэнік на «мыш'як»; S, серка на «серу».

Выкарыстанне адначасова афіцыйнага лацінскага і традыцыйнага беларускага варыянтаў не стварае цяжкасцей у хімічнай тэрміналогіі і наменклатуры, бо ў адпаведнасці з правіламі IUPAC для шэрага злучэнняў гэтых элементаў шырока выкарыстоўваецца абавязкова лацінская аснова, напрыклад карбанат, сылікат, сульфат, меркурат, арсенат, аўрат, купрат, плюмбат, станат, антыманат, фэрат. Нават для школьніка натуральным з'яўляецца прачытанне формулы: купрум эн-о-тры-двойчы; плюмбум-о-два. Такі падыход дазваляе аднавіць гістарычную справядлівасць і вярнуць нацыянальныя беларускія назовы такім хімічным элементам, як волава, цына, аршэнік, антымон і інш., якія пашыраны таксама ў заходнееўрапейскай хімічнай тэрміналогіі (гл. табл.2).

Афіцыйны назоў выкарыстоўваецца ў першую чаргу ў дачыненні да хімічнага элемента, а лацінізаваная форма яго злучэнняў будзе паступова пашырацца. У выніку шмат найменняў і тэрмінаў набудуць дакладнае міжнароднае гучанне. Так, працэс далучэння гідрагену (вадароду) называецца гідрагенаваннем, гідрагенолізам, але не «гідраваннем», што зараз ужываецца ў навучальнай літаратуры і атаясамліваецца з рэакцыяй з вадой. Добра гучаць тэрміны: гідрагенатар, гідраген-сульфід, гідраген-іон.

Табліца 1
**ПЕРШАЯ ГРУПА НАЗОВАЎ ХІМІЧНЫХ ЭЛЕМЕНТАЎ**

| № элемента | Назоў афіцыйны | Сымболь, вымаўленне сымболю | Назоў традыцыйны |
|---|---|---|---|
| 8 | аксыген | **O**, о | кісларод |
| 1 | гідраген | **H**, аш | вадарод |
| 7 | нітраген | **N**, эн | азот |
| 6 | карбон | **C**, цэ | вугаль |
| 14 | сыліц | **Si**, сыліцыум | крэмень |
| 16 | сульфур | **S**, эс | серка |
| 80 | мэркур | **Hg**, гідраргірум, мэркур | іртуць, жывасрэбра |
| 47 | аргент | **Ag**, аргентум | серабро, срэбра |
| 33 | арсэнік | **As**, арсэнікум | аршэнік |
| 79 | аўрум | **Au**, аўрум | золата |
| 29 | купрум | **Cu**, купрум | медзь |
| 82 | плюмбум | **Pb**, плюмбум | волава |
| 50 | станум | **Sn**, станум | цына |
| 51 | стыбіюм | **Sb**, стыбіюм | антымон |
| 26 | фэрум | **Fe**, фэрум | зялеза, жалеза |

*(Заканчэнне будзе.)*

## ВАМ, ШКОЛЬНІКІ!

***З гэтага года ў беларускіх сярэдніх школах уведзена новая праграма па беларускай літаратуры, якая цяпер вывучаецца ў кантэксце сусветнай (гл.: Беларуская літаратура. V—XI класы школ з беларускай мовай навучання: праграмы сярэдняй школы (Аўт. М.А.Лазарук і інш. — Менск: Нар.асвета, 1994). Разам з тым, нявырашанай застаецца праблема з шэрагам тэкстаў сусветнай літаратуры на беларускай мове: адпаведныя пераклады або зрабіліся бібліяграфічнай рэдкасцю, або яшчэ не зроблены зусім. Часткова гэты прабел запаўняе рубрыка «Шэдэўры сусветнай паэзіі па-беларуску», што вядзецца ў «Нашым слове» з 1992 года (яе працяг плануецца на бліжэйшыя нумары). Дарэчы, у названых праграмах ёсць спасылкі на гэтую рубрыку (гл. стар.63 і 99). Але храналагічны характар «Шэдэўраў» не дазваляе змясціць сярод іх творы некаторых даўнейшых паэтаў. Натуральна, што ўбаку застаюцца празаічныя і драматычныя творы, прадугледжаныя ў школьнай праграме. Таму добра, што газета ТБМ адкрывае новы раздзел «Сусветная літаратура ў школе», у якой будуць змяшчацца не толькі самі праграмныя творы, але і кароткія біяграфічныя звесткі пра аўтараў і літаратуразнаўчыя каментары. Спадзяёмся, што гэтыя матэрыялы паслужаць добра і настаўнікам, і вучням.***

***Л.БАРШЧЭЎСКІ,***
***кандыдат філалагічных навук,***
***нам.дырэктара Беларускага гуманітарнага ліцэя.***

**X клас**
**(паглыбленае навучанне)**

# Анакрэонт

Старагрэчаскі паэт Анакрэонт (або Анакрэон) нарадзіўся ў горадзе Тэасе (Малая Азія). Пасля 545 г. да н.э. мусіў пакінуць радзіму ў сувязі з прыходам персаў і жыў пэўны час у Абдэры (Фракія). Пасля ён быў прыдворным паэтам у цара Палікрата на востраве Самос і ў цара Гіпарха ў Афінах. Пасля гэтага, відаць, жыў у Фесаліі.

У лірыцы Анакрэонта, якая дайшла да нас найбольш ва ўрыўках, апяваюцца зямныя пачуцці, віно, каханне. Паэзія Анакрэонта была ўзятая за ўзор шматлікімі пазнейшымі грэчаскімі паэтамі, аўтарамі анакрэонтыкаў.

Паэзіі Анакрэонта прысвяціў свой вядомы верш «Бледны, хілы, усё ж люблю я...» класік нашай паэзіі Максім Багдановіч.

***ЛІТАРАТУРА***


*Тронский И.М. [Об Анакреонте] // Его ж. История античной литературы. — М., 1983. С.87—89.*

*Frankel H. Dichtung und Philosophie des fruhen Griechentums. — München, 1962.*


* * *

**Хлопчык, дай мне келіх гэты:**
**Асушу яго імгненна!**
**Размяшай вады ў ім дзесяць**
**І віна яшчэ пяць частак —**
**Каб крыху мне быць вясёлым,**
**А не п'яным, як вакханкі.**

**Нам няма ахвоты зноўку**
**Напівацца, нібы скіфам,**
**І пасля крычаць-галёкаць.**
**Дзеля ўцехі вып'ем трошкі.**
**Ды прыгожа заспяваем.**

* * *

**Скроні ўжо мае сівыя,**
**Ўжо блішчыць мой чэрап голы,**
**Ўсмешак моладзь больш не дорыць,**
**Рэдкія зжаўцелі зубы,**
**І ад насалод жыццёвых**
**Мне малы драбок застаўся.**

**Вось таму рыдаць хачу я,**
**Перад Тартарам у жаху;**
**Бездань страшная Аіда,**
**Цяжкая туды дарога.**
**Той, хто ўніз па ёй сыходзіў,**
**Больш не вернецца ніколі.**

* * *

**Што ж, фракійская кабылка,**
**Скоса на мяне глядзіш ты?**
**І чаму ўцякаеш? Можа,**
**Думаеш: някемны я?**

**Ды, павер, цябе я спраўна**
**І спакойна зацугляў бы,**
**З лейцамі ў руках як трэба**
**Кіраваў бы я табой.**

**Сёння ты яшчэ пасешся,**
**Жвава гойсаеш па траўцы,**
**Бо кабылку вершнік хвацкі**
**Покуль што не асядлаў.**

***Пераклад са старагрэчаскай Лявона БАРШЧЭЎСКАГА.***

**VIII клас**

# Ірландскі (кельцкі) эпас

Эпас ірландцаў склаўся галоўным чынам у II—VII стст. н.э. Кельты, насельнікі Ірландыі, доўгі час жылі родавай абшчынай; іх хрысціянізацыя (V ст.) была досыць павярхоўная: паганскую культуру падтрымлівалі самі святары.

У гэтых варунках на аснове родавых і мясцовых паданняў сфармаваўся багаты на міфалагічныя ўяўленні эпас: разам каля 280 **сагаў** (паданняў). Самым старажытным і найбольш дасканалым з мастацкага боку выглядае **гуладскі цыкл** гераічных сагаў (Гулад — цяперашняя паўночная Ірландыя). Напачатку галоўным героем гэтых твораў быў ваявода Канхабар, які кіраваў адной з частак Ірландыі ў I ст. н.э. Але пасля на месцы галоўнага героя мы бачым яго пляменніка Кухуліна, сына бога святла Луга і сястры Канхабара Дэхтырэ. Гісторыя нараджэння Кухуліна апавядаецца ў сазе «**Нараджэнне Кухуліна**». Іншыя сагі расказваюць пра подзвігі Кухуліна. Напрыклад, у сазе «Двубой Кухуліна з Фердыядам» паказана бойка двух волатаў, пабрацімцаў і сяброў юначых гадоў, якія знаходзяцца цяпер па баках варагуючых між сабою плямёнаў. Забіўшы Фердыяда, Кухулін губляе ад смутку прытомнасць, а, ачнуўшыся, моцна аплаквае смерць сябра.

У вобразе Кухуліна праўдзівыя гістарычныя рысы спалучаюцца з казачна-міфалагічнымі. Але менавіта ў гэтым вобразе старажытныя кельты ўвасобілі свае ўяўленні пра годнасць і маральную дасканаласць. Фактычна мы бачым тут пачаткі **этычнага кодэкса сярэднявечнага рыцарства**.

Шырока вядомыя цяпер таксама паўднёваірландскія **фантастычныя сагі**, дзе галоўнымі героямі выступаюць Фін, праважыр племя фініяў і яго сын Асіян.

Багаты кельцкі эпас паслужыў невычэрпным матэрыялам для пазнейшай еўрапейскай літаратуры (раманы пра Трыстана і Ізольду, рыцарскія раманы пра караля Артура, перапрацоўка старажытных паданняў у «Песнях Асіяна», створаных у XVIII ст. Джэймсам Макфэрсанам, і г.д.).

***ЛІТАРАТУРА***


*Ковалева Т.В. Кельтский (древнеирландский) эпос // Ковалева Т.В., Лапин И.Л., Паньков Н.А. Литература средних веков и Возрождения. — Мн., 1988. С.11—14.*

*Смирнов А.А. Ирландский эпос // Исландские саги. Ирландский эпос. — М., 1973 (БВЛ). С.547—564.*


# Нараджэнне Кухуліна

*(Ірландская сага)*

Аднаго разу Канхабар быў разам са сваімі найшляхетнейшымі ваярамі ў Эмайн-Маха, і тады здарылася наступнае.

Птушкі невядомае пароды наляцелі на навакольныя палі і сталі пандаць збожжа, садавіну, траву, усю зяляніну да апошняга сцябла. Засталіся пасля іх адна сухая зямля ды голыя камяні. Вялікі смутак ахапіў гуладаў, калі яны ўбачылі, як гіне ад птушак увесь іхні спажытак, увесь харч. І тады вырашылі яны выправіць дзевяць калясніц з самымі хуткімі ў Гуладзе конямі на паляванне супраць тых птахаў. Паехаў на ловы і сам Канхабар, і разам з ім яго сястра Дэхтырэ: яна была тады ўжо дарослай дзяўчынаю і кіравала яго́нымі конямі. Паехалі са сваімі вазакамі таксама іншыя героі, сярод якіх быў Брыкрэн, Карбадаў сын.

Птушкі ўцякалі ад іх у бок гары Фуат і раўніны Муртэмнэ, да Эдман, да раўніны Брэга. Прыгожая была чарада, што ляцела прэч ад гуладаў. На чале яе за важака быў найвялікшы, найпрыгажэйшы на свеце птах. Разам усіх птушак было дзевяць разоў па дваццаць: яны падзяліліся на пары, кожная з якіх была злучаная ланцужком са светлага золата. А дваццаць птушак з найпрыгажэйшымі пёрамі ляцелі паперадзе іншых пры кожнай пераправе, і кожную пару злучаў ланцужок з чырвонага золата.

Неўзабаве гулады ўжо не маглі бачыць тых птушак, і ніхто не ведаў, дзе яны маглі падзецца — апроч трох птахаў, што паляцелі на поўдзень. Гулады пусціліся наўздагон, але неўзабаве іх заспела ноч — так што і тыя тры птахі зніклі ў іх з вачэй.

— Распрагаймя коней і саставім калясніцы разам, — сказаў Канхабар. — Няхай хто-небудзь пойдзе і пашукае, ці не знойдзецца якога жытла, а хоць бы прытулку, нам на гэту ноч.

І пайшлі выведваць Конал Трыумфальны і Брыкрэн. Шукаць давялося нядоўга: хутка яны ўбачылі самотны дамок, не надта вялікі, быццам бы нядаўна збудаваны, а страха на ім — з белага птушынага пер'я. Унутры дома не было ніякай аздобы: нават ляжанак і коўдраў не было відаць. Толькі ў найдалейшым куце была абсталяваная кухня. Не відаць было ніякіх каштоўных рэчаў, нават нічога, каб з'есці. Конала і Брыкрэна прывіталі двое гаспадароў, муж і жонка, якія знаходзіліся ў доме.

Выведнікі вярнуліся да Канхабара і расказалі яму пра тое, што бачылі і пра што даведаліся.

— Якая карысць нам ісці ў той дом? Нічога патрэбнага нам там няма, нават наедку ніякага. Дый занадта ён малы, каб мы маглі знайсці прытулак у ім.

Усё-такі гулады вырашылі пайсці ў той дом. У ім змясціліся ўсе: і самі яны, і іх калясніцы, і коні; і высветлілася, што ў доме яшчэ засталося многа вольнага месца. І знайшлі гулады там шмат ежы і коўдраў, і розных іншых прыемных рэчаў; яшчэ ніколі не выпадала ім начаваць у лепшых варунках.

Пасля таго як яны добра там размясціліся, у дзвярах з'явіўся мужчына, з выгляду зусім малады, надзвычай высокага росту, тварам найпрыгажэйшы ў свеце. Ён сказаў ім:

— Калі, на вашу думку, ужо час вячэраць, дык стол зараз жа будзе вам накрыты. Бо тое, што вы елі раней, было толькі закускаю.

— Час якраз надышоў, — адказаў Брыкрэн.

І тады гуладам падалі разнастайныя стравы ды напоі, на смак і густ кожнага з гасцей. Пад'еўшы і папіўшы, яны захмялелі і зрабіліся весялейшыя.

І той самы мужчына сказаў тады ім:

— Мая жонка якраз збіраецца нараджаць дзіця: пакутуе ў суседнім пакоі. Было б добра, каб гэтая дзяўчына з белымі грудзьмі, што тут з вамі сядзіць, пайшла і дапамагла ёй.

— Няхай ідзе, — сказаў Канхабар.

Дэхтырэ зайшла ў пакой да жанчыны, якая неўзабаве нарадзіла хлопчыка. У гэты ж самы час ладная кабыла, якую трымалі гаспадары, прывяла двух жарабят, і малады муж падарыў немаўляці тых жарабят як памяць.

Калі гулады раніцой прачнуліся, не было ўжо ні дома, ні гаспадароў, ні птахаў, а толькі бязлюдная раўніна наўкола іх. І вярнуліся яны ў вялікую Эмайн-Маха, прыхапіўшы з сабою толькі што народжанага хлопчыка ды дваіх жарабят з кабылай, якія засталіся з імі. Хлопчыка выхоўвала Дэхтырэ, пакуль ён не вырас, стаўшы ладным юнаком. Тады яго апанавала хвароба, ад якой ён памёр. Усе ў Эмайн-Маха моцна смуткавалі па хлопцу.

Больш за ўсіх аплаквала свайго прыёмнага сына Дэхтырэ. Тры дні яна нічога не брала ў рот: ні ежы, ні пітва. Ад смутку яна сасмягла, ды вельмі моцна. Ёй падалі кубак з пітвом. Калі яна паднесла кубак да губ, ёй падалося, што нейкая зусім маленькая жывёліна хоча скочыць ёй з кубка проста ў рот. Яна дзьмухнула, каб прагнаць тую істоту. Усе паглядзелі: нікога ў кубку відаць не было. Зноў падалі ёй кубак, і, калі яна пачала піць, тое стварэнне слізганула ёй у рот і прабралася ў яе вантробы.

Тут жа яна раптоўна заснула і спала аж да наступнага дня. У сне да яе прыйшоў нейкі мужчына і абвясціў, што яна чакае дзіця ад яго.

— Тых птахаў стварыў я, — сказаў ён ёй. — Я прымусіў вас гнацца за птахамі да самага таго месца, дзе я паставіў дом, у якім вы знайшлі сабе прытулак. Я стварыў таксама і жанчыну, што нараджала ў пакутах дзіця; гэта я прыняў аблічча хлопчыка, які там нарадзіўся, і мяне ты выхоўвала; гэта мяне аплаквалі ў Эмайн-Маха, калі хлапец памёр. Ды цяпер я вярнуўся зноў, прабраўшыся ў цябе пад выглядам маленькай істоты, што сядзела ў кубку з пітвом. Я — Луг Даўгарукі, сын Этлена, і ад мяне народзіцца хлопчык, якога ты цяпер носіш пад сэрцам. Імя яго будзе Сэтанта.

Дэхтырэ сапраўды стала чакаць дзіця. Сярод гуладаў пайшлі спрэчкі ды сваркі, бо ніхто не мог зразумець, хто будзе бацькам гэтага дзіцяці. Казалі нават, што гэта можа быць і Канхабар, каля якога яна была ўвесь час і які быў вельмі прывязаны да яе.

Пасля таго да Дэхтырэ прыйшоў у сваты Суалтам, Ройгаў сын. І Канхабар аддаў за яго сваю сястру. Яна вельмі саромелася першы раз быць з ім, бо ўжо была цяжарная. Дэхтырэ падышла тады да слупа, абаперлася аб яго плячом і пачала біць сябе па спіне і сцёгнах, пакуль, як ёй падалося, не пазбавілася ад будучага дзіцяці. І адразу ж вярнулася да яе цнатлівасць.

Пасля таго яна пабралася з Суалтамам і нарадзіла праз пэўны час яму сына. Немаўля было як трохгадовае дзіця. Прыёмным бацькам яго стаў Куглан-Каваль. Хлопчыка назвалі Сэтантам, і гэтае імя ён насіў да тае пары, пакуль не забіў Кугланавага сабаку і не адслужыў Кавалю за гэта. З гэтага часу яго пачалі зваць Кухулінам.

***Пераклад Л.БАРШЧЭЎСКАГА.***

***Заўвагі.***

*<u>Канхабар</u> — валадар адной з частак Ірландыі; жыў у I ст. н.э.*

*<u>Гулад</u> — сённяшняя Паўночная Ірландыя (Ольстэр).*

## І СМЕХ І ГРЭХ

*Жыўка СТОЙШЫЧ*

# Леў-дэмакрат

*(Байкі)*

Пасля таго як пабыў год пад наглядам лекарскага кансіліюму, леў вырашыў у сваёй манархіі ўвесці дэмакратычныя прынцыпы, свабоду абрэхвання і волевыяўлення.

Жывёлы апынуліся ў разгубленасці, не ведалі, як быць. На мінулых выбарах леў праглынуў усе бюлетэні і так прыйшоў да ўлады. Праглынуў ён і траіх членаў выбарчай камісіі, каб яны мелі магчымасць без вонкавых уплываў падлічыць галасы.

Ліс, дарэчы, ліняць пачаў ад напружання, гадаючы, што ж гэта леў надумаў. Адно зразумела было: у льва цяпер стала больш шарыкаў у галаве.

Тхор вырашыў, што прабіла ягоная пара, і ў верхняй палаце выступіў з абвінавачваннем: леў замест медыцынскай гумы выкарыстоўвае аўтамабільную, а гэта не адпавядае рашэнням аб'яднаных нацый і інтарэсам айчыннай прамысловасці.

— Няхай дэпутаты правяраюць, так гэта ці не, — рыкнуў леў, плюнуўшы пры гэтым. — Але ў цябе, браце, дужа ногі смярдзяць, бо шкарпэткі не мыеш. Я тут ужо бутэльку адэкалону выпіў, а ўсё роўна смурод не перабіў. Уласна, пра гэта можна было і не згадваць, але мы ж дэмакраты, павінны адкрыта выказвацца...

# Вожык і гузік

Вожык убачыў, што коціцца гузік, і спалохаўся. Потым наставіў свае іголкі і паспрабаваў укалоць. Ды гэты гузік быў цвёрды, што яму калючкі! Гэта надало вожыку яшчэ больш страху, і ён не спыніўся, не супакоіўся, пакуль не начапіў гузік на свае іголкі дзірачкамі.

Пасля гэтага давялося трушчыць свае калючкі, каб гузік скінуць. Затое, калі гузік упаў, вожык ажно падскочыў ад радасці, палічыўшы, што закалоў яго да смерці.

# Салавей і леў

Злавіў леў салаўя і, не ведаючы, што з ім рабіць, прапанаваў:

— Выпушчу, калі навучыш мяне спяваць.

— Не атрымаецца нічога, — уздыхнуў салавей.

— Што?! — рыкнуў пакрыўджаны леў. — Не верыш таму, што я паабяцаў?

— Веру, — адказаў салавей, — ды калі б ты напраўду спяваць хацеў, мяне не лавіў бы.

*Пераклаў з сербскахарвацкай мовы*
Іван ЧАРОТА.

# У ЛІСТАПАДЗЕ Ў ДОМЕ ЛІТАРАТАРА

| | | |
|---|---|---|
| 16 лістапада серада | Творчая вечарына пісьменніка Вячаслава Стомы | Вялікая зала ДЛ 18.30 |
| 17 лістапада чацвер | Паўлюк Багрым. Да 182-х угодкаў нараджэння паэта, каваля-мастака | Беларускі універсітэт культуры. Аўд. 114, 17.30 |
| 17 лістапада чацвер | Секцыя перакладу. «Серыя «Скарбы сусветнай літаратуры: набыткі і пралікі» | Канферэнц-зала ДЛ 15.00 |
| 17 лістапада чацвер | «Сыноўняя вернасць». Вечарына, прымеркаваная да 80-годдзя Данілы Міцкевіча і 35-годдзя музея Якуба Коласа | Вялікая зала ДЛ 18.00 |
| 23 лістапада серада | Прэм'ера кнігі прозы Алеся Масарэнкі «Пакуль не завялі кветкі» | Кавярня ДЛ 18.30 |
| 24 лістапада чацвер | Секцыя паэзіі | Канферэнц-зала ДЛ, 15.00 |
| 24 лістапада чацвер | «Летапісец векапомнага» Юбілейная вечарына народнага пісьменніка Міхася Лынькова, прысвечаная 95-м угодкам нараджэння | Беларускі універсітэт культуры. Аўд. 114, 17.30 |
| 29 лістапада аўторак | Спектакль «Містэрыя» паводле рамана Уладзіміра Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» ў пастаноўцы народнага тэатра чытальнікаў «Жывое слова» | Вялікая зала ДЛ 18.30 |
| 30 лістапада серада | Секцыя літаратуры для дзяцей і юнацтва. Абмеркаванне новых кніг выдавецтва «Юнацтва» і тэматычнага плана на 1996 год | Канферэнц-зала ДЛ 15.00 |

# Крыжаванка-пераклад




Па гарызанталі: 1. Подберёзовик. 3. Мечта. 4. Сцепка. 7. Оскорбление. 8. Шесток (у печи). 11. Скат. 12. Очертание. 16. Тяж (в телеге). 18. Кабан. 19. Поросёнок. 21. Лаять (о собаке). 23. Растительное масло. 24. Овин. 25. Воззвание.

Па вертыкалі: 1. Икона. 2. Селезень. 5. С обеих сторон. 6. Сообщение. 9. Немного. 10. Туча. 11. Капкан. 13. Блюдце. 14. Маслобойка. 15. Магазин. 17. Отлагательство. 18. Горкнуть (о жирах). 20. Тонкое сукно. 22. Шайка.

*Кошт падпіскі на «Наша слова» на адзін месяц: 175 рублёў, на 3 месяцы: 525 рублёў, на 6 месяцаў: 1050 рублёў. Індэкс 63865.*

## ПАРОДЫІ

*Вінцук АСЬЦЮК*

## Голы, але — арол

*Я вольны, як птушкі,*
*Я гол, як сакол,*
*Сабою не важкі,*
*Душою — арол.*

(«Песня Валацугі»).
**Сяргей Іваноў.**

Я самы вялікі,
Я моцны, як леў.
Сабою не важкі,
Бо сёння не еў.

Я хаты не маю,
Не маю двара.
Мне хутка за трыццаць —
Жаніцца пара.

Я вольны, як птушка,
Я гол як сакол.
Любіце, дзяўчаты.
Душой я — арол.

Я смелы, як куля,
Я востры, як нож,
Нібы сторублёўка
Сабой я прыгож.

Я буду паэтам,
Я праўду кажу.
Я здольны, як Пушкін,
Я песні пішу.

## АДРАСЫ СЯБРОЎСТВА

# Больш пішыце пра моладзь...

У рэдакцыю звярнуўся з лістом наш малады чытач Вітаўт Пазнякевіч з Менска. Аўтар паведаміў кароткія звесткі пра сябе: яму пятнаццаць гадоў і ён «хацеў бы перапісвацца з хлопцамі і дзяўчатамі, якія паважаюць беларускую мову і захапляюцца беларускім рокам». Любімыя беларускія гурты Вітаўта — «Палац», «Мроя», «Крама», «Уліс», «Новае неба», а любімыя барды — Алесь Камоцкі, Андрусь Мельнікаў, Віктар Шалкевіч.

Акрамя таго, В.Пазнякевіч выказаў пажаданні, каб «Наша слова» друкавала больш матэрыялаў аб беларускамоўных поп-выканаўцах, гуртах і бардах. Ён хоча таксама, каб у газеце шырэй расказвалася аб беларускіх маладзёжных дэмакратычных партыях, рухах і аб'яднаннях. «Увогуле, — завяршае свой ліст Вітаўт, — пішыце больш пра беларускую нацыянальна свядомую моладзь».

Адрас В.Пазнякевіча: 220101, г.Менск, пр.Ракасоўскага, д.170, кв.349.

***Ад рэдакцыі.*** *Вельмі прыемна было даведацца з ліста, што юнак адным з важкіх крытэрыяў для ўсталявання сяброўства лічыць павагу да роднай мовы. Што да іншых пажаданняў нашага чытача, то рэдакцыя будзе імкнуцца больш поўна асвятляць тэматыку, аб якой піша аўтар.*




## Д.ДЖАРВІС: «Навуковае абгрунтаванне народнай медыцыны»

У 1924 г. у свет выйшла кніга «Амерыканскі батанік і лекар», прысвечаная пытанням, якія датычаць лекавых уласцівасцей рэчываў мінеральнага, жывёльнага і расліннага паходжання і іх выкарыстання ў тэрапеўтычнай і хірургічнай практыцы. Першае, на што звяртае ўвагу народная медыцына ў выпадку захворвання чалавека, — гэта стан надвор'я. Пры паніжанай тэмпературы паветра павышаецца актыўнасць наднырачнікаў і ціск крыві, узрастае шчолачнасць крыві, а ў сувязі з гэтым і змяняецца хімічны састаў тканак. Наадварот, з павышэннем тэмпературы паветра на працягу некалькіх дзён актыўнасць наднырачнікаў і ціск крыві зніжаюцца, шчолачнасць крыві памяншаецца і хімічны састаў тканак змяняецца ў адпаведнасці са зменай навакольных умоў.

Што прапануе народная медыцына для абароны арганізма ад частых і рэзкіх змен надвор'я? У асноўным рэкамендуецца падтрымліваць кіслую рэакцыю арганізма замест шчолачнай. Якім шляхам? Шляхам штодзённага ўжывання кіслаты, колькасць якой залежыць ад умоў надвор'я. Ідэальным сродкам, здольным падтрымліваць кіслую рэакцыю арганізма, з'яўляецца яблычны воцат, які ўтрымлівае ўсе элементы яблыка. Рэкамендуецца адна і больш чайных лыжак воцату на шклянку гатаванай вады адзін-два разы ў дзень. Калій важны для нервовай сістэмы, а кальцый — для касцявой тканкі. Недастатковасць калію можна кампенсаваць кропляй раствору Люголя, якая дадаецца да яблычнага воцату пры ўжыванні. Такім чынам задавальняюцца патрэбы чалавека ў ёдзе і каліі.

Уплыў навакольнага асяроддзя на арганізм праяўляецца ў адчуванні розных шумаў у вушах: звоне, гуле, шыпенні. Такі непрыемны стан можна прадухіліць, прымяняючы ўказаны вышэй спосаб лячэння.

Народная медыцына адзначае, што ўзаемадзеянне фактараў навакольнага асяроддзя стварае ў арганізме той або іншы клінічны стан, які выклікае добрае або дрэннае самаадчуванне.

Народная медыцына першачарговую ўвагу звяртае таксама на ўплыў рэжыму харчавання і ежы на арганізм. Яна лічыць, што мы ствараем і адбудоўваем наш арганізм пры дапамозе ежы і піцця, а таксама паветра, якім дыхаем. Неабходна таксама ўлічваць нацыянальныя асаблівасці людзей пры вызначэнні тыпу ўжываемай ежы.

На фоне ўплыву надвор'я і іншых фактараў навакольнага асяроддзя, а таксама ежы на арганізм народная медыцына затым звяртае ўвагу на няспыннае ўзаемадзеянне арганізма са шкоднай мікрафлорай. Калі мы ведаем, што шкодная мікрафлора развіваецца ў шчолачным асяроддзі і што ў прыродзе дастаткова крыніц кіслаты ў выглядзе зелянiны, фруктаў, ягад, гароднiны, караняплодаў, мы можам больш рацыянальна прадугледзець штодзённае ўжыванне ежы з дастатковай колькасцю кіслаты з мэтай стварэння кіслага асяроддзя ў арганізме, неспрыяльнага для развіцця патагеннай мікрафлоры.

Народная медыцына ўваходзіць каранямі ў далёкае мінулае, у жыццё першабытных людзей, якія жылі ў пастаянным руху і, папросту кажучы, не мелі часу хварэць. Цывілізацыя з яе стрэсамі прынесла шмат новых захворванняў, але тым не меней народная медыцына няспынна пашырае абсягі іх вывучэння і лячэння.

Авалодаўшы асновамі народнай медыцыны, вы надоўга захаваеце добрае здароўе, актыўнасць і трываласць свайго арганізма.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:

220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 46

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 7223 паасобнікі.
Падпісана ў друк 14.11.1994 г.
у 15 гадзін.